КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 3 (274) ◂ 20 студзеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ГОД 1992: СТРАЧАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ**

Стар. 6

**СУПРАЦЬСТАЯННЕ ПАМІЖ КДБ І МУС БЫЛО ЗАЎСЁДЫ**

Пра кадравыя перастаноўкі сярод сілавікоў разважаюць генерал-лейтэнант Мечыслаў Грыб і падпалкоўнік Мікалай Казлоў

Стар. 4

**МОНТЭ-КРЫСТА СУПРАЦЬ СААКАШВІЛІ**

Палітычны пейзаж Грузіі змяніўся пасля таго, як мільярдэр Бідзіна Іванішвілі кінуў выклік рэжыму Міхаіла Саакашвілі. Пра тое, наколькі гэта сур'ёзная пагроза для прэзідэнта Грузіі, журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з грузінскім журналістам Іраклієм Амірэджыбі

Стар. 13

**РЫГОР ШЫРМА**

Стар. 16

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ГРОШЫ ПАД НАГАМІ**

Артыкул Вольгі Хвоін

▸ З НАГОДЫ

# КАМУ КРЭДЫТ, А КАМУ — ДУЛЯ

Вольга ХВОІН

**Указам №13 Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў новыя падыходы да дзяржпадтрымкі грамадзян пры будаўніцтве і куплі жылля. Наваўвядзенне выклікала вялікі рэзананс: многа сямей, што спадзяваліся займець кватэру з дапамогай дзяржавы, праляцелі з планамі на ўласны дах над галавой, а нехта парадаваўся канцу халяўных крэдытаў.**




Цяпер па сутнасці. Права на атрыманне льготных крэдытаў захоўваецца для шматдзетных сем'яў, для тых, хто месціцца ў памяшканнях, прызнаных непрыдатнымі для пражывання; для людзей, якія пражываюць у інтэрнатах не менш за 10 гадоў, калі ў чальцоў сям'і няма ва ўласнасці жылля ў Беларусі; для сямей, у якіх ёсць дзеці-інваліды або інваліды з дзяцінства I і II групы; для хворых ці тых, хто перанёс прамянёвую хваробу, выкліканую наступствамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а таксама асобаў, якія маюць права на пазачарговае атрыманне сацыяльнага жылля.

Таксама права на атрыманне льготных крэдытаў захоўваецца для ветэранаў баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў; для тых, хто будуецца або купляе жыллё ў населеных пунктах з колькасцю да 20 тысяч чалавек; для працаздольных паўналетніх членаў сям'і наймальніка сацыяльнага жылля ў выпадку яго смерці або выезду на пастаяннае пражыванне ў іншае жыллё, для асобаў, якія не маюць у карыстанні жылля на падставе дамовы найму або ва ўласнасці іншага жылога памяшкання ў гэтым населеным пункце агульнай плошчай 15 квадратных метраў і больш (у Мінску — 10 квадратных метраў і больш) на аднаго чалавека; паўналетніх членаў сям'і памерлага (загінуўшага, прызнанага адсутным без вестак) наймальніка службовага жылля; паўналетніх маладых грамадзян, якія з'яўляюцца лаўрэатамі спецыяльных фондаў прэзідэнта, прэзідэнцкіх стыпендыятаў; суддзяў і пракурорскіх работнікаў; маладых сем'яў, якія маюць дваіх непаўналетніх дзяцей.

Указ распаўсюджвае новыя ўмовы крэдытавання грамадзян толькі на зноў заключаемыя крэдытныя дамовы.

Змяненне ўмоў дзяржпадтрымкі ў вырашэнні жыллёвага пытання выклікала хвалю нараканняў. Маладыя сем'і з горыччу канстатуюць, што пабудаваць сабе кватэру цяпер нерэальна — працэнтныя стаўкі па камерцыйных крэдытах і фактычныя заробкі не пакідаюць шанцу. Разам з тым ёсць і прыхільнікі новага падыходу — яны падтрымліваюць упарадкаванне карыстання жылой плошчай і скарачэнне спісу льготнікаў. Бо, напрыклад, у сталіцы, дзе жыллёвая праблема найбольш вострая, было нямала выпадкаў, калі людзі, маючы ва ўласнасці кватэры, на льготных умовах будавалі яшчэ некалькі. Па дадзеных на студзень 2012 года, 55300 мінчан мелі па дзве катэры, 5400 — па тры, 742 — па чатыры, 168 — па пяць, 138 — па шэсць і болей кватэр.

Цікава, што, паводле афіцыйнай інфармацыі, колькасць насельніцтва ў Беларусі не павялічваецца, аднак аб'емы жыллёвага будаўніцтва раслі, як і лік тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Так, у 1995 годзе ў жытле мелі патрэбу 623 800 чалавек, праз пятнаццаць гадоў, у 2010-м, — ужо 855 600 чалавек.

Натуральна, змяніліся патрабаванні людзей — цяпер маладыя сем'і не хочуць цясніцца з бацькамі ў адной кватэры. Але не змяніліся падыходы дзяржавы да гэтай праблемы. Тлустыя гады беларускай эканомікі дазвалялі выдзяляць значныя субсідыі на жыллёвае будаўніцтва, у галодны час лавачку давялося прыкрыць. А хто не меў магчымасці пабудаваць кватэру, так і застаўся ні з чым. Не падрыхтавала дзяржава і арэнднага фонду, каб за прымальны, а не камерцыйны кошт можна было наймаць жыллё.

Тэму льготнага будаўніцтва на пачатку студзеня абмяркоўвалі па беларускаму тэлебачанню ў праграме «Клуб рэдактараў». Цікавае меркаванне рэдактара газеты «Советская Белоруссия» Паўла Якубовіча. «Я не атрымаў ад дзяржавы ніводнага метра жылля. Калі мне трэба было вырашыць жыллёвую праблему, я працаваў на дзвюх працах — у часопісе «Крыніца» і ў «Народнай газеце», бо ведаў, што будую жыллё для сябе і пры чым тут дзяржава з яе інстытуцыямі. Мне падаецца, што гэты ўказ прадуманы, у ім расстаўленыя прыярытэты, хто насамрэч адносіцца да катэгорыі «асоб, якія маюць патрэбу». Дзяржава мусіць ствараць умовы для заробку, калі не хапае — шукай яшчэ адну працу», — падкрэслівае Якубовіч.

З рэдактарам «СБ» цяжка не пагадзіцца, усё слушна. Але хіба цяпер дзяржава стварыла ўмовы, калі настаўнік ці журналіст можа зарабіць на кватэру ў сталіцы, нават працуючы на дзвюх, а то і трох працах? А што застаецца ад права працоўнага на сорак рабочых гадзін у тыдзень, права на адпачынак? І як увогуле можна працягваць гаварыць пра сацыяльна арыентаваную дзяржаву, скіраваную на патрэбы народа, калі на практыцы ёсць камерцыйныя падыходы ў размеркаванні базавых патрэбаў і заробкі ўзроўню «на выжыванне»?

І яшчэ: у нармальных, зусім не сацыяльна арыентаваных дзяржавах, няма ніякіх ільготнікаў. Ёсць сацыяльнае жыллё для тых, хто не працуе ці мае малыя заробкі. Гэта жыллё, дарэчы, ніколі не будзе іх уласнасцю. І ёсць звычайныя крэдыты пад 4–7 працэнтаў (у залежнасці ад краіны), якія можа сабе дазволіць любы стала працуючы грамадзянін.

▶ КНІГА

# ПАДПІШЫЦЕСЯ НА КАРАТКЕВІЧА!

Марат ГАРАВЫ



**У гэтым годзе выйдуць першыя два тамы 25-томніка Уладзіміра Караткевіча, які будзе распаўсюджвацца па падпісцы.**

Пра гэта паведаміў галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп.

Як адзначыў Шніп, людзі з пэўным недаверам ставяцца да падпіскі на творы мастацкай літаратуры, бо ўжо забыліся пра гэтую форму продажу кніг, якая была шырока распаўсюджана ў савецкія гады. Можа таму да гэтага часу на збор твораў Караткевіча падпісаліся толькі каля 150 чалавек і каля 1 тысячы бібліятэк, сказаў галоўны рэдактар выдавецтва. Разам з тым, ён не выключае, што ў наступным годзе «Мастацкая літаратура» абвесціць падпіску на зборы твораў іншых беларускіх аўтараў.

Вясной мінулага года дзяржава падтрымала ініцыятыву рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» аб арганізацыі падпіскі на збор твораў Караткевіча. 30 студзеня на пасяджэнні рады ТБМ доктар філалагічных навук прафесар Адам Мальдзіс прапанаваў аб'явіць агульнанацыянальную падпіску на збор твораў пісьменніка пад дэвізам «Чытаем разам Уладзіміра Караткевіча», бо, паводле слоў вучонага, усе беларусы любяць чытаць гэтага пісьменніка. Рада падтрымала прапанову Мальдзіса і звярнулася з лістом да ўрада аб вяртанні падпіскі на беларускамоўныя выданні мастацкай літаратуры.

Збор твораў Караткевіча рыхтуе кафедра беларускай літаратуры і культуры Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук Анатоля Вераб'я. Выданне мяркуецца завяршыць да 2020 года, калі будзе адзначацца 90-годдзе з дня нараджэння пісьменніка.

У першыя два тамы плануецца змясціць паэзію Караткевіча, прычым да другога тома — прыкласці кампакт-дыск «Вершы і песні Уладзіміра Караткевіча ў аўтарскім выкананні». Паколькі першы том выдання паступіць у продаж у сакавіку, «Мастацкая літаратура» падоўжыла падпіску на збор твораў да канца лютага 2012 года.

У трэці том увойдуць казкі і апавяданні, у чацвёрты і пяты — легенды і аповесці, у шосты — раман «Нельга забыць», у сёмы і восьмы — раман «Каласы пад сярпом тваім», у дзявяты — раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», у дзясяты — раман «Чорны замак Альшанскі». Акрамя таго, запланавана выданне тома драматургіі, дзвюх кніг публіцыстыкі, эсэістыкі і крытыкі, дзвюх тамоў эпісталярнай спадчыны, кнігі перакладаў і аўтаперакладаў, тамы малюнкаў пісьменніка, а таксама трох кніг сцэнарыяў і лібрэта. У збор увойдуць дзённікі, запісныя кніжкі, дароўныя надпісы, дапаўненні папярэдніх тамоў збору, летапіс жыцця і творчасці Караткевіча. Тамы публіцыстыкі, эсэістыкі і крытыкі будуць дапоўненыя кампакт-дыскам з аўдыёзапісамі выступленняў пісьменніка.

Па ўмовах падпіскі трэба да 1 сакавіка ў паштовым аддзяленні ўнесці грошы за першы (46 тысяч 800 рублёў) і апошні 25-ы (58 тысяч 400 рублёў) тамы і накіраваць у выдавецтва копію квітанцыі аб аплаце, а таксама паведаміць свой хатні адрас і тэлефон. Пералік грошай рабіць па наступных рэквізітах: унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура», 220004, горад Мінск, праспект Пераможцаў, 11, р/р 3012001483810, аддзяленне № 538 у горадзе Мінску ААТ «Белінвестбанк», БІК 153001739, УНП 100055406 ОКПО 02477775, «Падпіска на творы Караткевіча».

Інфармацыя аб выхадзе наступнага тома, яго кошце і тэрмінах аплаты будзе змешчана ў выдадзеным томе. Даведкі па тэлефонах у Мінску: 203-83-63 і 226-66-16.

▶ ТРАГЕДЫЯ

# ГРОШЫ З'ЕЛІ МЫШЫ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Пенсіянерка вёскі Хадзявічы Слонімскага раёна нечакана засталася без грошай, што хавала ў шафе.**

Не, да бабулі не прыходзілі злодзеі, і гэта не крызіс пакінуў старую без сродкаў на пахаванне. Паўтары мільёны беларускіх рублёў з'елі мышы.

Грошы жанчына трымала ў кішэні вопраткі, якая вісела ў шафе. Дзверы шафы заўсёды былі прыадчынены. Туды залезлі мышы і непрыкметна пачалі грызці беларускія рублі. Відаць, ім яны падаліся такімі смачнымі, што праз пэўны час гаспадыня замест грошай у кішэні знайшла толькі дробненькія паперкі. Гэтыя паперкі вясковай жанчыне давялося выкінуць на сметнік, бо ніякі банк іх ужо не абмяняе.

▶ ІНІЦЫЯТЫВА

# ГОД ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Марат ГАРАВЫ

**Створаны грамадскі аргкамітэт па правядзенні Года гістарычнай памяці ахвяраў таталітарызму. У яго ўвайшлі былыя вязні ГУЛАГу, грамадскія і палітычныя дзеячы, навукоўцы і журналісты.**

У звароце да грамадзян Беларусі і беларусаў дыяспары, прынятым на пасяджэнні, нагадваецца, што 75 гадоў таму, у 1937 годзе, улады СССР пачалі супраць яго народаў беспрэцэдэнтную кампанію тэрору, якая ўвайшла ў гісторыю як «вялікі тэрор». «Змяніліся пакаленні, зрынулася ўлада бальшавікоў, але сёння ў нашай краіне робяцца спробы сцерці памяць аб злачынствах савецкага рэжыму, апраўдаць іх, а злачынцаў — абяліць. Злавесныя тэндэнцыі «барацьбы з ворагамі народа» выяўляюцца ў тым, як дзеючая ў Беларусі ўлада ставіцца да іншадумцаў, да змагароў за правы і свабоды», — гаворыцца ў звароце.

Яго аўтары лічаць «недапушчальным і злачынным знішчэнне і фальсіфікацыю гістарычнай памяці», выказваюць упэўненасць, што «яе захаванне і адраджэнне дапаможа беларускаму народу пераадолець цяжкасці, якія стаяць на яго гістарычным шляху, захаваць незалежнасць нацыі, яе культурны і матэрыяльны здабытак, традыцыі і каштоўнасці».

Абвяшчаючы 2012 Годам гістарычнай памяці, удзельнікі пасяджэння звярнуліся да дзеячаў культуры і навукі, да палітыкаў і журналістаў, да грамадскіх актывістаў і да ўсяго народу Беларусі з прапановай аб'ядноць намаганні для выратавання гістарычнай памяці народа, уключыцца ў працу аргкамітэту, дасылаць свае прапановы, а таксама ўдзельнічаць у акцыях Года гістарычнай памяці.

На сваім наступным пасяджэнні аргкамітэт абмяркуе праграму мерапрыемстваў і акцый па ўшанаванні памяці ахвяраў таталітарызму, па захаванні гістарычнай памяці і выхаванні моладзі ў павазе да нацыянальнай гісторыі і культуры.

Як адзначыў культуролаг Вацлаў Арэшка, нягледзячы на палітыку ўладаў, накіраваную на вынішчэнне памяці пра сталінскія рэпрэсіі, грамадскасць здолела абараніць Курапаты і адрадзіць працу па ўвекавечванню памяці бязвінных ахвяраў палітычных рэпрэсій. Паводле яго слоў, у краіне аднаўляецца традыцыя «вялікага тэрору» і яго спадчына, пра што сведчаць масавыя арышты, збіццё людзей, разгоны акцый і палітычныя вязні.

▶ КРУГЛЫ СТОЛ

# ТАТАЛЬНЫ БАЙКОТ!

Вольга ХВОІН

**Сваякі палітзняволеных настойваюць на санкцыях. Таксама яны заклікаюць міжнародную супольнасць адмяніць правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі.**

У Мінску адбыўся круглы стол з удзелам сваякоў палітвязняў, праваабаронцаў, палітыкаў, дзе разважалі пра далейшыя захады па вызваленні людзей, якія знаходзяцца ў беларускіх турмах з-за сваіх палітычных перакананняў. Бакі сышліся ў тым, што ў грамадстве замала ведаў па гэтай праблеме, і нават «таксісты не ведаюць, хто такі Бяляцкі», таму трэба ладзіць шырокія інфармацыйныя кампаніі. Апроч таго, родныя палітзняволеных настойліва звяртаюцца да палітыкаў, каб падчас сваіх міжнародных сустрэчаў тыя заклікалі да жорсткіх санкцый супраць рэжыму Лукашэнкі.

Палітык Віктар Івашкевіч з гэтым згодны і прапануе зладзіць «татальны байкот» беларускай уладзе да таго часу, пакуль з турмаў не будуць выпушчаныя ўсе палітвязні. Па словах Івашкевіча, «добрай волі ад тых, хто пасадзіў палітвязняў у турму, чакаць немагчыма, вызваліць палітычных зняволеных атрымаецца толькі пад ціскам». Івашкевіч зазначыў, што падчас замежных сустрэч усім прадстаўнікам дэмакратычных сілаў трэба ўзяць за правіла заклікаць Захад да «татальнага байкоту» беларускай улады. «А наколькі яны могуць уводзіць санкцыі, наколькі дазваляе ім рэальная палітыка — гэта іх справа. Наша справа — тыкаць і тыкаць ім у нос, што калі яны рэальна зацікаўленыя ў дэмакратыі ў Беларусі, што іх намаганні і паўмеры ні да чаго не прыводзяць. І наколькі ім дазваляюць сілы, ажыццяўляць байкот улады да таго часу, пакуль не будуць вызваленыя палітвязні Эканамічны, палітычны ціск — да таго часу, пакуль палітвязні не будуць вызваленыя», — заявіў аксакал апазіцыйнага руху Беларусі.

Круглы стол стаў фактычна пляцоўкай для выказвання сваіх думак, але яго ўдзельнікі сышліся ў тым, што трэба шырыць салідарнасць, падтрымку сем'яў рэпрэсаваных, пазіцыя палітыкаў мусіць быць цвёрдай і паслядоўнай у акрэсленых вышэй пытаннях. А міжнародным спартыўным арганізацыям параілі адмяніць правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі ў 2014 годзе. У адваротным выпадку будзе як у Германіі часоў Гітлера, калі там правялі Алімпіяду, а спартоўцы потым саромеліся свайго ўдзелу ў ёй.

**Больш падрабязна пра вынікі круглага стала чытайце на сайце «НЧ»: novychas.org**

▶ ЗВАРОТ

# СПЫНІЦЬ ПЕРАСЛЕД

**Дэпутат Валынскай абласной рады і каардынатар Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў» Ігар Гузь звярнуўся да міністра замежных спраў Украіны, пасла Украіны ў Беларусі і генеральнага консула Украіны ў Брэсце. Дэпутат у сваім лісце звяртае ўвагу на факты парушэння правоў украінскай дыяспары ў беларускім горадзе Баранавічы.**

Баранавіцкія ўлады не хочуць рэгістраваць аб'яднанне ўкраінцаў «Кабзар» і пераследуюць кіраўніка аб'яднання Міколу Чарнавуса.

Афіцыйнай падставай у адмове рэгістрацыі «Кабзара» з'яўляецца адсутнасць у арганізацыі юрыдычнага адрасу. Але згодна з беларускім заканадаўствам атрымаць юрыдычны адрас можна толькі тады, калі арганізацыя мае памяшканне.

Мясцовыя чыноўнікі прапануюць «Кабзару» арандаваць офіс за 10 мільёнаў рублёў (прыкладна 9000 грыўняў). У той час, як ва Украіне мясцовыя ўлады прадстаўляюць памяшканні беларускім грамадскім арганізацыям за 1 грыўню.

Акрамя таго, кіраўнік аб'яднання Мікалай Чарнавус 9 студзеня быў дапытаны міліцыяй у сувязі з тым, што абвесціў у СМІ аб падачы заяўкі на пікет «Чыноўнікі супраць дружбы паміж народамі». На пікеце актывісты аб'яднання «Кабзар» хацелі выказаць пратэст супраць адмовы баранавіцкіх чыноўнікаў прадаставіць арганізацыі памяшканне для юрыдычнага адрасу.

Такія дзеянні мясцовых уладаў супярэчаць дружалюбным дыпламатычным адносінам паміж Украінай і Беларуссю. Акрамя таго, гэта грубае парушэнне правоў украінцаў, якія пражываюць у Баранавічах.

У сувязі з гэтым Ігар Гузь накіраваў дэпутацкі зварот да міністра замежных спраў Украіны Канстанціна Грышчанкі, амбасадара Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Віктара Ціханава і генеральнага консула Украіны ў Брэсце Івана Баранчыка з патрабаваннем аказаць спрыянне ўкраінцам Беларусі ў абароне іх правоў і свабод.

Прэс-служба Цэнтра «Супрацоўніцтва без межаў»

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПЕРСПЕКТЫВЫ Ў МІНУСЕ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ні для каго не сакрэт, што нашы ўлады збольшага займаюцца эканамічнымі заклікамі, а не самой эканомікай. Пра паспяховы «выхад з крызісу» кажа і ўрад, і кіраўнік краіны, і праўладныя эканамісты. Але рэальнасць расстаўляе ўсё на свае месцы.**




Напрыклад, згодна з зацверджаным Прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2012 год, рост ВУП павінен скласці 5–5,5%. Гэта ў тыя часы, калі свет чакае другую хвалю эканамічнага крызісу. Але існуюць і іншыя прагнозы — ад незалежных эканамістаў.

Сусветны банк (СБ) прагназуе ў 2012 годзе падзенне тэмпаў росту ВУП Беларусі да 0,5%. Гэтая лічба ўтрымліваецца ў апублікаваным штогадовым дакладзе СБ «Глабальныя эканамічныя перспектывы на 2012 год».

На думку экспертаў Сусветнага банка, «сусветная эканоміка ўвайшла ў небяспечную фазу». «Фінансавыя ўзрушэнні ў Еўропе часткова распаўсюдзіліся на краіны, якія сталі на шлях развіцця, і іншыя краіны, у тым ліку з высокім узроўнем даходаў, што да нядаўняга часу заставаліся некранутымі. Гэтае разрастанне крызісных з'яў прывяло да павышэння кошту пазык у многіх рэгіёнах свету і прывяло да падзення індэксаў на фондавых рынках, пры гэтым прыток капіталу ў краіны, якія сталі на шлях развіцця, рэзка скараціўся. Еўропа, па ўсёй бачнасці, увайшла ў рэцэсію», — гаворыцца ў дакладзе.

У сувязі з рэцэсіяй у еўразоне СБ знізіў прагноз росту сусветнай эканомікі ў 2012 годзе з 3,6% (гэтая лічба называлася банкам мінулым летам) да 2,5%. Зніжаны і прагноз эканамічнага росту для Расіі — з 4,2% да 3,5%.

### Незалежныя прафсаюзы Беларусі разглядаюць магчымасць пачатку кампаніі байкоту беларускіх тавараў на еўрапейскім рынку

Некаторыя краіны еўрапейскага рэгіёну, адзначаецца ў дакладзе, сутыкнуцца з праблемамі інвеставання — як знешняга, так і ўнутранага. «У выпадку значнага пагаршэння кан'юнктуры патокі замежнага капіталу могуць яшчэ больш аслабнуць, а кошт пазык можа рэзка ўзрасці», — лічаць эксперты СБ.

Як адзначаецца ў дакладзе, «перад такім сцэнарам узмацнення жорсткасці фінансавых умоў асабліва ўразлівыя краіны з высокім узроўнем кароткатэрміновай запазычанасці або доўгатэрміновай запазычанасці з блізкім тэрмінам пагашэння, а таксама краіны з вялікім дэфіцытам рахунку бягучых аперацый».

Асаблівую ўразлівасць у гэтым плане, на думку экспертаў СБ, «дэманструе Турцыя, якая мае вялікі дэфіцыт рахунку бягучых аперацый і значны аб'ём кароткатэрміновых даўгоў адносна велічыні сваіх рэзерваў». «Беларусь і Чарнагорыя таксама ўразлівыя перад замарожваннем крэдытавання на глабальных рынках, роўна як і Грузія, Балгарыя і Румынія, у якіх вялікія аб'ёмы кароткатэрміновай запазычанасці», — лічаць аўтары даклада. «У гэтым кантэксце перспектывы ўяўляюцца вельмі няпэўнымі», — падкрэсліваюць яны.

«Уразлівасць» беларускай эканомікі не адмаўляе нават Белстат. Чыстая страта прамысловых прадпрыемстваў Беларусі ў студзені–лістападзе 2011 года склала 3 трыльёна 605,6 мільярда рублёў, што ў 6,4 разы больш, чым аналагічны паказчык 2010-га.

Паводле даных Белстата, сума чыстай страты арганізацый горназдабыўнай прамысловасці склала 1,8 мільярда рублёў (на 60,3% больш), апрацоўчай прамысловасці — 566,9 мільярда (на 55% больш), вытворчасці і размеркавання электраэнергіі, газу і вады — 3 трыльёна 36,9 мільярда (у 15,5 разы больш).

Але ж адміністрацыйнае камандаванне і заціск ініцыятываў працягваюцца. І ад гэтага Беларусь можа панесці дадатковыя страты.

У Беларусі разглядаецца пытанне аб павышэнні ставак адзінага падатку для прадпрымальнікаў, паведаміў 18 студзеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька.

«Гэта пытанне зараз разглядаецца, падатковыя органы правялі адпаведныя разлікі, аналіз даходнасці відаў дзейнасці. Прапановы па змяненні ставак уносіцца ў абласныя саветы і Мінскі гарадскі савет», — сказаў Расолька.

Ён удакладніў, што Падатковы кодэкс устанаўлівае толькі базавыя стаўкі адзінага падатку, а канкрэтныя стаўкі для кожнага асобнага рэгіёну вызначаюць абласныя і Мінскі гарадскі савет.

Ён падкрэсліў, што базавыя стаўкі не мяняліся з 2010 года. «Таму я думаю, што яны будуць зменены адназначна, але ў якім памеры, канкрэтна вызначыць кожная вобласць», — сказаў Расолька.

Незалежныя прафсаюзы Беларусі разглядаюць магчымасць пачатку кампаніі байкоту беларускіх тавараў на еўрапейскім рынку. Пра гэта паведаміў старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук.

«Мы супрацоўнічаем з еўрапейскімі прафсаюзамі і раней ужо абмяркоўвалі з імі магчымасць байкоту. Калі будуць нейкія дзеянні, скіраваныя на знішчэнне незалежнага прафсаюзнага руху ў Беларусі, то ў нас павінна быць магчымасць такой кампаніі. І нашы еўрапейскія калегі ставяцца да гэтага з разуменнем і гатовыя падтрымаць», — сказаў Ярашук.

«Гэта, зразумела, не азначае, што заўтра мы націснем кнопку, і спыняцца пастаўкі нафтапрадуктаў, напрыклад, у Нідэрланды. Мы проста папярэджваем усе гарачыя галовы, што ў нас ёсць чым абараніць нашы прафсаюзы», — падкрэсліў ён.

Ярашук адзначыў, што найперш размова ідзе пра сітуацыю на РУВП «Граніт» у Мікашэвічах, дзе ствараецца пярвічная ячэйка Беларускага незалежнага прафсаюза, але адміністрацыя дагэтуль не адказала на звароты з просьбай даць пярвічцы юрыдычны адрас. Паводле інфармацыі БКДП, 16 студзеня ў Салігорску адбыўся першы навучальны семінар з актывістамі ячэйкі незалежнага прафсаюза. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прыблізна 40 членаў незалежнага прафсаюза на РУВП «Граніт», а таксама кіраўніцтва Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) і Незалежнага прафсаюза гарнякоў. Падчас семінара абмяркоўваліся пытанні, звязаныя са стварэннем і легалізацыяй незалежнага прафсаюза на РУВП «Граніт» і пачаткам націску на лідараў арганізацыі.

Ці варта беларускім уладам знаходзіць яшчэ адзін галаўны боль на цалкам хворую эканоміку?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ



У мінулым нумары мы пісалі, што на ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча цісне адміністрацыя калоніі, а таксама яго мусяць перавесці ў турму. Як паведаміў яго былы адвакат Павел Сапелка, 17 студзеня ў Івацэвіцкай калоніі №5 адбыўся суд над Аўтуховічам у сувязі з парушэннем рэжыму ўтрымання ў калоніі. Суд прызнаў Аўтуховіча вінаватым у злосным парушэнні рэжыму. «На гэтай падставе суд Івацэвіцкага раёна вынес прыгавор аб змяненні меры пакарання. Два гады і тры месяцы, якія засталіся да канца адбыцця пакарання, Аўтуховіч правядзе ў турме», — сказаў Сапелка. Як мяркуе былы адвакат, Аўтуховіч будзе адпраўлены ў турму №1 у Гродне.

Напярэдадні разгляду справы Аўтуховіч напісаў сваім паплечнікам, што гатовы да развіцця падзей пасля 17 студзеня. Ён выказаў удзячнасць усім знаёмым і незнаёмым людзям, якія маральна падтрымлівалі яго.

«Няхай мы яшчэ не выйгралі. Але не прайгралі. Вялікі крок наперад усё ж зроблены. Інфармацыя аб парушэннях правоў чалавека становіцца публічнай, — зазначыў Аўтуховіч. — Я пратэстую, таму што ўспрымаю жыццё такім, якое яно ёсць насамрэч, а не такім, якім яго хочуць паказаць тыя, хто ва ўладзе. Няхай ведаюць, што не кожны прагінаецца і не з кожнага можна зрабіць жывёліну. Я не гандлюю сумленнем, быў, ёсць і застаюся чалавекам, міма зла не праходжу і маўчаць не буду».

Праваабаронцы лічаць Аўтуховіча палітзняволеным і ўказваюць на сур'ёзныя працэсуальныя парушэнні, зафіксаваныя падчас суда.

### ІГАР ШУНЕВІЧ



У вышэйшае кіраўніцтва МУС уведзены прадстаўнік КДБ. Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызначыў Ігара Шуневіч першым намеснікам міністра ўнутраных спраў — начальнікам крымінальнай міліцыі.

«Раю вам з першага ж дня паказаць, што вы не проста чалавек, які прыйшоў з КДБ у МУС, як гэта ў нас любяць казаць і папісваць асобныя пісакі, што, маўляў, у нас ці ледзь не барацьба ідзе паміж КДБ, МУС і гэтак далей. Павінен сказаць: што КДБ, што МУС — гэта дзве структуры, якія працуюць на дзяржаву. Але, прыйшоўшы туды, вы павінны выразна паказаць, што прыйшоў спецыяліст, які ведае знутры МУС і паглядзеў з боку на гэтую структуру», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Перад гэтым прызначэннем Лукашэнка зняў палкоўніка міліцыі Алега Пякарскага з пасады першага намесніка кіраўніка МУС — начальніка крымінальнай міліцыі. «Алег Пякарскі звольнены з органаў унутраных спраў у запас Узброеных сіл у сувязі з учыненнем правіннасці, што дыскрэдытуе званне супрацоўніка органаў унутраных спраў», — афіцыйнае тлумачэнне прычыны звальнення.

А ў снежні мінулага года з аналагічнай фармулёўкай ад займаемай пасады быў вызвалены намеснік міністра ўнутраных спраў Яўген Полудзень.

### ГЕНАДЗЬ ДАВЫДЗЬКА

Кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька ў інтэрв'ю Goals.by паскардзіўся на фінансавыя праблемы інфармацыйнага манапаліста краіны. У прыватнасці, Давыдзька распавёў, што Белтэлерадыёкампанія не змагла стварыць спартыўны канал з-за сур'ёзнага дэфіцыту сродкаў, бо многія рэкламадаўцы адмовіліся ад супрацоўніцтва.

«У 2010 годзе, калі будаваў бюджэт кампаніі, заступіў на пасаду старшыні, мне далі аптымістычны, песімістычны і сярэдні прагнозы развіцця. Як беларус, я вырашыў адштурхнуцца ад песімістычнага прагнозу, азіраючыся на планы, што будаваў. Дык вось цяпер магу адказна заявіць, што песімістычны варыянт апынуўся ў два разы лепшы за рэальнасць. Калі раней мы — умоўна — атрымлівалі сто мільёнаў прыбытку, то зараз — сорак. Не таму, што мы сталі горш працаваць, а таму, што з краіны сышлі шматлікія рэкламадаўцы. Чаму яны сышлі? Таму што многія на тэрыторыі Еўрасаюза забаранілі сваім фірмам рэкламаваць тавар на тэрыторыі Беларусі», — зазначыў Давыдзька.



▸ РАТАЦЫЯ

# СУПРАЦЬСТАЯННЕ ПАМІЖ КДБ І МУС БЫЛО ЗАЎСЁДЫ

Вольга ХВОІН

**Як ужо вядома, у Міністэрстве ўнутраных спраў падчысцілі кадравы склад вышэйшага кіраўніцтва. Нядаўна быў звольнены і намеснік кіраўніка МУС — начальнік міліцыі грамадскай бяспекі палкоўнік Яўген Полудзень. Ад пасады першага намесніка міністра ўнутраных спраў — начальніка крымінальнай міліцыі — вызвалены Алег Пякарскі. На змену апошняму Лукашэнка ўвёў у кіраўніцтва МУС чалавека з КДБ.**




Першым намеснікам міністра ўнутраных спраў — начальнікам крымінальнай міліцыі — прызначаны Ігар Шуневіч. «Я думаю, той досвед, які вы набылі ў КДБ, вельмі вам карысны, але наогул вы — прафесійны спецыяліст Міністэрства ўнутраных спраў, вы служылі на ўсіх пасадах у МУС, ведаеце яго знутры, добра ведаеце вынік — гэта таксама для нас вельмі важна. Але самае галоўнае — праца ў КДБ (а ў апошні час вы якраз займаліся кантролем, можна прама сказаць, працы праваахоўных органаў) дала вам магчымасць убачыць знутры ўсе праблемы Міністэрства ўнутраных спраў», — адзначыў кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да Ігара Шуневіча. Лукашэнка падкрэсліў, што новаму першаму намесніку міністра ўнутраных спраў неабходна рыхтавацца да больш сур'ёзных задач, якія давядзецца выконваць. «Галоўнае — без аглядкі браць на сябе адказнасць і, натуральна, адказваць за прынятыя рашэнні!» — сказаў ён.

Цікава, што Шуневіча хутка ўзгадалі як супрацоўніка КДБ, які меў дачыненне да палітычных спраў. Так, журналістка «Хартыі'97» Наталля Радзіна (цяпер у палітэміграцыі ў Літве) распавяла, што бачыла навапрызначанага намесніка міністра на начным допыце ў СІЗА КДБ. «Мяне выклікалі на допыт пасля адбою, пасля 22.00, калі я ўжо збіралася класціся на сваю шконку. Допыт праходзіў у кабінеце начальніка турмы, якога перад гэтым Шуневіч выправадзіў з кабінета. Адразу было зразумела, што гэта «вялікая шышка». Яго цікавілі нейкія вар'яцкія рэчы, на мой погляд. Ён пытаўся пра сувязі кандыдатаў з Германіяй, Польшчай, Расіяй і Украінай», — распавяла Наталля пра сваю сустрэчу з Шуневічам.

Алег Пякарскі быў звольнены са сваёй пасады «ў сувязі з учыненнем правіннасці, што дыскрэдытуе званне супрацоўніка органаў унутраных спраў». Аналагічная фармулёўка звальнення і ў Яўгена Полудня. Па звестках інфармацыйнага парталу Naviny.by, палкоўнік Пякарскі падаў рапарт на звальненне па ўласным жаданні на пачатку снежня 2011 года. Аднак, як бачым, яго намер не быў задаволены, і палкоўніка звольнілі гучна.

Генерал-лейтэнант міліцыі ў адстаўцы Мечыслаў Грыб гаворыць, што ратацыя кадраў паміж сілавымі структурамі — справа не новая. «Такія выпадкі былі і раней, яшчэ з часоў СССР, калі супрацоўнікаў КДБ накіроўвалі на ўмацаванне МУС. Ігар Шуневіч не зусім належыць да КДБ, большую частку сваёй кар'еры працаваў у сістэме ўнутраных спраў. Канешне, можна гаварыць, што ён дасягнуў большага поспеху падчас працы ў КДБ. Увогуле, супрацьстаянне паміж КДБ і МУС было заўсёды і будзе надалей. Гэта зразумела — дзве моцныя сілавыя структуры вядуць барацьбу за права першай інфармацыі, першай сілы. Зразумела і тое, што Віктар Лукашэнка не супраць, каб сілавыя ведамствы ўзначальвалі людзі, якія больш адданыя яму. Увогуле, цяжка разважаць, што там адбываецца. Сказана, што Пякарскі звольнены з фармулёўкай за дыскрэдытацыю, але што там канкрэтна, пакуль не вядома. Можа быць склад крымінальнага злачынства. А ёсць і проста амаральныя дзеянні», — адзначыў Мечыслаў Іванавіч.

> Карупцыя ў Беларусі — небяспечная з'ява, я называю яе перманентнай барацьбой. І, канешне, у яе ўцягваюцца і сілавыя структуры, у тым ліку і КДБ

Шуневіч у часе сваёй працы ў КДБ займаўся карупцыйнымі справамі. Да гэтага прызначэння Шуневіч узначальваў упраўленне па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю КДБ, па словах Грыба, ад 1990-х гадоў барацьба з карупцыяй не надта прасунулася ў выніках. «Сёння карупцыя ў Беларусі — небяспечная з'ява, я называю яе перманентнай барацьбой. Ад 1990-х гадоў гэтая барацьба працягваецца, і, канешне, у яе ўцягваюцца і сілавыя структуры, у тым ліку і КДБ. Але пакуль не будзе празрыстасці ў гэтых дзеяннях, то нічога не зменіцца», — адзначае генерал-лейтэнант.

А падпалкоўнік міліцыі ў запасе Мікалай Казлоў кажа, што да гэтага прызначэння ніколі раней не чуў пра Шуневіча (аналагічнае гаворыць і Мечыслаў Грыб). «А што тычыцца самога Пякарскага, то ён сябе сапраўды дыскрэдытаваў яшчэ ў 2010 годзе, калі паказваў па БТ арматуру і «кактэйлі Молатава» на плошчы Незалежнасці пасля мітынгу пратэсту 19 снежня, гэта маё меркаванне. А што там было нагодай для звальнення — цяжка сказаць», — лічыць афіцэр.

Ён пацвярджае, што КДБ і МУС заўжды былі канкурэнтамі, бо «вырашаюць падобныя задачы». «Наўпростага супрацьстаяння, можа, і няма, але канкурэнцыя ёсць. Пераліў кадраў пачаўся, яшчэ калі КДБ надзялілі дадатковымі функцыямі МУС. А вось такога, каб людзей пераводзілі з МУС у КДБ, а потым назад, я не памятаю. Але з гэтымі звальненнямі Камітэт дзяржбяспекі, безумоўна, стаў больш моцным. І прызначэнне Шуневіча не тое каб падпарадкавала Міністэрства ўнутраных спраў Камітэту, але зрабіла КДБ больш значным», — сказаў Мікалай Казлоў.

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МЯНЕ АДЛІЧЫЛІ З УНІВЕРСІТЭТА

Мікіта БРОЎКА

**Пасля майго затрымання і дзесяці сутак на Акрэсціна ў мяне амаль не было сумневаў — з універсітэта мяне выключаць.**

Падставы так думаць былі больш чым сур'ёзныя —ужо падчас самай першай сустрэчы з адміністрацыяй факультэта ўсім далі зразумець, што тыя, хто не падтрымлівае палітыку дзяржавы, вучыцца тут не будуць. Гэта былі не пустыя словы: яшчэ да паступлення я ведаў гісторыю хрысціянскай дэмакраткі Ганны Антонавай. Яе выключылі з майго факультэту ў 2008 годзе — проста за тое, што яна падала заяўку на правядзенне пікету ў падтрымку тады яшчэ палітвязня Аляксандра Казуліна.

Да адлічэння Ганны Антонавай былі датычныя тагачасны дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры Франц Станіслававіч Шумчык і яго намесніца па выхаваўчай працы Таццяна Уладзіміраўна Ганчарова-Цынкевіч. Фактычна па палітычных матывах адлічалі студэнтаў і сённяшні дэкан факультэта беларускай і рускай філалогіі Васіль Дзянісавіч Старычонак, а таксама былы дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры Аляксандр Іванавіч Лугоўскі.

Праславіўся мой факультэт і падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў — намесніца дэкана па выхаваўчай працы Таццяна Уладзіміраўна Ганчарова-Цынкевіч абяцала ўсім дадатковы выходны дзень у тым выпадку, калі 90 працэнтаў студэнтаў прагаласуе датэрмінова. Але ці то студэнты не паслухаліся, ці то спадарыня Ганчарова-Цынкевіч схлусіла — ніякага дадатковага выходнага дня не было.

На наступны дзень пасля вызвалення з Акрэсціна я ў першую чаргу накіраваўся ва ўніверсітэт. На факультэце мяне прынялі цёпла — у мой бок, на дзіва, не было сказана аніводнага злога слова. У дэканаце зрабілі копію рашэння суда і папрасілі напісаць тлумачальную запіску. Пасля гэтага мне паведамілі, што я магу здаваць залікі.

Такое развіццё падзей магло б вельмі здзівіць мяне, калі б не адна акалічнасць. Падчас адсідкі на Акрэсціна мяне выклікалі на размову да аднаго чалавека. Ён прадставіўся кімсьці накшталт «інспектара па справах моладзі». Доўга распытваў пра акалічнасці маёй справы, пра


Мікіта Броўка

тое, ці ўдзельнічаю я ў палітычных працэсах. Пасля вызвалення абяцаў патэлефанаваць. Асобую ўвагу акцэнтаваў на тым, што ён патурбуецца, каб ва ўніверсітэце ў мяне не ўзнікла праблем — мой арышт якраз прыйшоўся на час заліковай сесіі.

Варта адзначыць, што троху раней гэты ж чалавек прысутнічаў у Доме Правасуддзя, дзе 20 снежня мы з іншымі затрыманымі чакалі разгляду нашых спраў. Ходзячы па калідоры ў міліцэйскай форме, ён распытваў студэнтаў пра акалічнасці іх навучання — відаць, выбіраў «ахвяру».

І што цікава, затрыманых са мною дзяўчат з майго факультэта выклікалі да прарэктара па выхаваўчай працы, а мне пашчасціла ўсяго толькі патлумачыць сітуацыю дэкану, які адрэагаваў на ўсё досыць спакойна.

Я паспяхова здаў пяць залікаў за чатыры дні. Патрапіць на першы іспыт не паспеў, а на другім усё пайшло-паехала. Падчас іспыту ў аўдыторыю завітаў намеснік дэкана па вучэбнай працы Франц Станіслававіч Шумчык, які папрасіў выкладчыцу тэрмінова адлучыцца для размовы. Я атрымаў за экзамен нездавальняючую адзнаку.

Праз пэўны час мне давялося сустрэцца з тым самым чалавекам, які гутарыў са мной падчас адбывання арышту на Акрэсціна. Я думаў, што ён прапануе мне падпісаць паперу аб супрацоўніцтве, а ў выпадку адмовы будзе пагражаць адлічэннем.

Але гэтага не адбылося. Ён доўга гаварыў на розныя тэмы, цікавіўся сітуацыяй з вучобай. Добрае веданне сітуацыі ў краіне адразу выдала ў ім спецслужбіста. Лейтматывам размовы было абмеркаванне сітуацыі з маім навучаннем: маўляў, калі будуць нейкія праблемы — тэлефануй, я табе абавязкова дапамагу.

Праз некалькі дзён прыйшоў час трэцяга іспыту. І ў мяне не было сумневаў наконт паспяховай здачы. Пра маё затрыманне і арышт выкладчыца даведалася ледзь не першай, і адмыслова патэлефанавала адной з дзяўчын, з якімі мяне затрымлівалі. Выказала словы падтрымкі, нехта казаў, што нават абяцала «паставіць экзамен аўтаматам».

Але падчас іспыту я пачуў: «Я не магу паставіць…» Ужо потым некалькі чалавек расказвалі, што бачылі яе ва ўніверсітэце заплаканую, але ніхто не мог даведацца, у чым прычына.

Па словах намесніка дэкана па вучэбнай працы, у аўторак, 17 студзеня, мяне афіцыйна адлічылі з фармулёўкай «за акадэмічную непаспяховасць».

**ПАДРАБЯЗНАСЦІ**

# СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ — У МУЗЕЙ

Марат ГАРАВЫ

**Распараджэннем кіраўніка дзяржавы другі будынак Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь па сталічнай вуліцы імя Міхаіла Фрунзе, 19 перададзены на баланс новастворанага Следчага камітэта.**

Трэба адзначыць, што гэты мураваны трохпавярховы П-падобны ў плане будынак плошчай прыблізна 7 тысячы квадратных метраў нагадвае палац і з'яўляецца помнікам архітэктуры класіцызму першай траціны XIX стагоддзя. Спачатку ён выкарыстоўваўся пад вайсковы лазарэт, з пачаткам Першай сусветнай вайны — пад лячэбны корпус Мінскага вайсковага шпіталя, а пасля Другой сусветнай вайны — пад штаб тылу войскаў Беларускай ваеннай акругі і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

У 2005 годзе будынак быў перададзены Нацыянальнаму гістарычнаму музею, у фондах якога знаходзіцца самая вялікая музейная калекцыя краіны — каля 400 тысяч пісьмовых, выяўленчых і рэчавых рэліквій. Меркавалася, што рэканструкцыя будынку пад музейныя патрэбы будзе завершана ў 2012 годзе. У новым будынку прадугледжвалася магчымасць шырокага доступу наведвальнікаў да фондаў, планавалася стварыць вялікую рэстаўрацыйную майстэрню, размясціць дзяржаўны каталог музейнага фонду Беларусі, а таксама захоўваць усе фондавыя калекцыі НГМ, якія зараз размешчаныя ў падвалах Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Акрамя таго, меркавалася размясціць у будынку па Фрунзе, 19 выставачныя праекты музея дзеля дэманстрацыі яго фондаў (напрыклад, «Нумізматычны кабінет», «Скарбніца» і «Сакральнае мастацтва Беларусі»), а ў абодвух будынках НГМ — па Карла Маркса,12 і Міхаіла Фрунзе,19 — новую пастаянную экспазіцыю ўстановы культуры.

Канцэпцыя новай пастаяннай экспазіцыі, у распрацоўцы якой удзельнічалі больш за 30 супрацоўнікаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і спецыялістаў у галіне музейнай справы, была зацверджана Міністэрствам культуры і НАН Беларусі напрыканцы 2008 года.

Гэта канцэпцыя заснавана на беларускім поглядзе на айчыннае мінулае і ўключае шэсць гістарычных перыядаў: першабытнаабшчынны, сярэднявечча, Беларусь у другой палове XVI — канцы XVIII стагоддзяў, з канца XVIII да пачатку XX стагоддзяў, з 1917 па 1991 гады і незалежная Рэспубліка Беларусь.

На прэзентацыі канцэпцыі, якая адбылася ў Мінску 3 лютага 2009 года, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі Аляксандр Каваленя адзначыў, што «ў канцэпцыі адлюстраваны сусветны вопыт і імкненне пераадолець спрадвечны стэрэатып нашай славянскай непаўнавартасці, паказаць усе эпізоды айчыннага мінулага, данесці да гледача ідэю аб тым, што беларусы валодаюць велізарнай гісторыка-культурнай спадчынай». «Прычым канцэпцыя грунтуецца на багацейшых фондах Нацыянальнага гістарычнага музея, на вопыце стварэння археалагічнага музея Інстытута гісторыі і экспазіцыі, прысвечанай 80-годдзю акадэміі», — сказаў Каваленя.

Трэба мець на ўвазе, што апошняя пастаянная экспазіцыя ўстановы культуры, заснаваная на дасягненнях савецкай гістарыяграфіі, была дэмантавана ў музеі ў 1994–1995 гадах.

У каментары «НЧ» намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі адзначыў, што згодна з даручэннем кіраўніка дзяржавы Міністэрства культуры разам з Мінскім гарвыканкамам вядуць у сталіцы пошук новага будынка для Нацыянальнага гістарычнага музея. Стружэцкі выказаў надзею, што гэтая праца будзе паспяхова завершана ў бліжэйшы час дзеля таго, каб перавезці фонды музея і працягнуць працу па падрыхтоўцы новай пастаяннай экспазіцыі НГМ.

**КАМЕНТАР**

# Аляксей Паўлоўскі: ЛЮДЗІ І ЦЯПЕР ЗА МЯНЕ

**Нагадаем, 4 студзеня адміністрацыя будаўнічай арганізацыі «Прамжылбуд» пісьмова паведаміла Аляксею Паўлоўскаму аб нежаданні працягваць з ім працоўны кантракт. Ад 10 лютага рабочы застаецца без працы.**

На гэтым прадпрыемстве Аляксей адпрацаваў год і нараканняў за працу не меў. Аляксей Паўлоўскі гаворыць, што кантракт з ім не працягнулі, бо ён актыўна займаўся адстойваннем працоўных інтарэсаў, з'яўляецца сябрам незалежнага прафсаюза РЭП. Аляксея падтрымалі яго калегі і пісьмова звярнулася да кіраўніка прадпрыемства з патрабаваннем працягнуць з Паўлоўскім працоўны кантракт. У адваротным выпадку пятнаццаць заяўнікаў настойвалі, каб і з імі не працягвалі кантрактаў. Акрамя таго, муляры заяўлялі, што выходзяць з афіцыйнага прафсаюзу.

Але праз колькі дзён рабочыя пачалі адклікаць свае подпісы пад зваротам да кіраўніцтва прадпрыемства. Па беларускаму тэлебачанню выйшаў сюжэт, у якім Паўлоўскага абвінавацілі ў падмане калег, і, маўляў, таму яны адклікалі свае подпісы.

Аляксей Паўлоўскі пагадзіўся пракаментаваць сітуацыю.

— Ад мяне людзі не адракліся, — распавёў Аляксей, — бо калі прыехалі апературы з БТ, то яны казалі, што хочуць, каб я працаваў і далей. А пасквіль па БТ — дык мне нават шкада тых людзей, якіх паказалі. Вы ж бачылі, як некаторыя вочы адводзілі. На працы з рабочымі ў мяне нармальныя адносіны, а чыноўнікі вось падлянкі робяць. Але ў нечым гэтая сітуацыя добрая, бо бытавыя памяшканні прывялі ў парадак, чайнікі паставілі. Я ведаю, што так будзе, і ўсё ж мне падабаецца, што сітуацыя крыху разварушылася. Мяне ж не проста так падтрымалі, я многім працоўным дапамагаў. Яны і цяпер за мяне. Людзі на кантрактах, маўчаць, і наёмных работнікаў адміністрацыя дзяўбе як хоча. А ў людзей жа ёсць годнасць. Такі рэзананс, бо ўлады баяцца салідарнасці, мы наступілі на слабае месца. Калі ўлада будзе працягваць ціснуць, то салідарнасць будзе ў рабочых, бо куды ж трываць далей?

А вось меркаванне старшыні Беларускага прафсаюзу работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Генадзя Фядыніча:

— Калі б сёння працаўнікам сказалі, выкажыце сваю думку, і вам за гэта не будзе пакарання, то быў бы вялікі працэнт людзей, якія б заявілі, што маюць прэтэнзіі. Выпадак у Магілёве з Аляксеем Паўлоўскім не адзінкавы, такое ёсць па ўсёй Беларусі.

Да працоўнага чалавека ў нас застаюцца абыякавыя адносіны. Афіцыйныя прафсаюзы бачаць у працоўных толькі людзей, якія сплачваюць унёскі. Аляксей ставіць пытанні востра, і наймальнікі будуць рабіць усё магчымае, каб пазбавіцца ад такіх людзей.

Цяпер мы будзем праводзіць сустрэчы, каб абмеркаваць пытанні аплаты, атэстацыі працоўных месцаў.

На маю думку, каб салідарнасць магла праявіцца, гэтым трэба было займацца апошнія тры гады. Будзем глядзець на развіццё падзей у Магілёве, Мікашэвічах, ці будуць гатовыя рабочыя падтрымаць адзін аднаго і публічна выказаць свой пратэст. Салідарнасці трэба вучыцца, яна сама не прыходзіць.

*Мы будзем адсочваць сітуацыю і знаёміць з ёй нашых чытачоў.*

**КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА**

# НЕ АДРЫВАЙЦЕСЯ АД НАРОДА



**На працягу некалькіх апошніх тыдняў у жыцці працоўных калектываў Беларусі пачалі адбывацца значныя змены. На першае месца ў справе арганізацыі класавай салідарнасці пачалі прэтэндаваць грамадскія актывісты. Характэрнай прыкметаў наспелых перамен становіцца масавы зыход працоўных з праўладных прафсаюзных арганізацый і памкненне да стварэння суполак незалежных прафсаюзаў.**

У снежні некалькі соцень рабочых РУВП «Граніт» (Мікашэвічы) напісалі заявы аб выхадзе з дзеючай на прадпрыемстве прафарганізацыі і вырашылі стварыць пярвічную суполку БНП. На імя гендырэктара яны накіравалі просьбу аб выдзяленні памяшкання пад офіс.

У Магілёўскай вобласці кіраўніцтва ААА «Прамжылбуд» не працягнула працоўны кантракт з актывістам прафсаюза РЭП Аляксеем Паўлоўскім, мулярам 6 разраду. У адказ 15 будаўнікоў на чале з брыгадзірам накіравалі на адрас адміністрацыі калектыўную заяву з патрабаваннем аднавіць кантракт Паўлоўскага.

У Віцебску рабочыя адной з брыгад ДКУП «Сельскага будаўнічага камбіната» таксама вырашылі выйсці са складу праўладнага прафсаюза і стварыць пярвічку Незалежнага прафсаюза.

Гэтыя факты сведчаць аб імкненні працоўных скіраваць развіццё прафсаюзнага руху на нармальныя рэйкі. Калі прыярытэтам дзейнасці прафсаюзаў з'яўляюцца не спартовыя спаборніцтвы, не мастацкая самадзейнасць, не навагоднія падарункі ды іншыя парадныя мерапрыемствы, а барацьба за паляпшэнне ўмоў працы, яе аплаты, рэжыму працы, правядзенне тарыфных перамоваў з наймальнікамі пад арбітражам адпаведных дзяржаўных структур.

Па вызначэнні, гэта могуць рабіць толькі незалежныя ад дзяржавы прафсаюзы. Незалежныя на самай справе, а не фармальна, як ФПБ, што атрымала ўсю былую маёмасць савецкіх прафсаюзаў. Кіраўніцтва ФПБ не ведае, як за гэта аддзячыць. Праўда, шчыруе не за страх, а за сумленне. Прынамсі, пасля зыходу з пасады старшыні Уладзімера Ганчарыка, ФПБ не правяла ні адной масавай акцыі ў падтрымку сваіх сяброў.

Цікава, што ў сітуацыі, якая ўзнікла сёння, прадстаўнікі ФПБ не ўстрымліваюцца ад адкрытай палемікі з арганізацыямі сваіх «братоў па класу». На прадпрыемствах яны цалкам свядома атаясамліваюць сябе з адміністрацыяй. Менавіта адміністрацыі прымаюць выклік канкурэнтаў ФПБ. Улюбёным з'яўляецца метад калектыўнай адказнасці. Прыкладам, адміністратыўныя рэпрэсіі прымяняюцца не толькі супраць канкрэтных асоб, актывістаў і людзей, салідарных з імі, а супраць брыгад, змен, участкаў. Дарэчы, такімі метадамі вельмі ахвотна карыстаюцца ў арміі, у месцах зняволення. Як бачым, ужо і на прадпрыемствах адміністрацыя пачынае разглядаць «кругавую паруку» як вельмі важны інструмент кіравання працоўнымі калектывамі.

А на «Граніце», як паведамляюць з Мікашэвіч, тэрыторыю патрулююць ужо не толькі ахоўнікі прадпрыемства, але і супрацоўнікі АМАП. Адміністрацыя спрабуе запалохаць не толькі «бунтаўшчыкоў», але і іх жонак.

На «прафсаюзным пытанні» засяродзіліся прадстаўнікі вертыкалі. Інтарэс з іх боку вельмі дзіўны, бо прафсаюзнае жыццё працоўных калектываў не падлягае рэгуляванню раённых, абласных ды іншых уладных структур. Згодна з законам аб прафесійных саюзах, грамадзяне маюць права добраахвотна ствараць прафсаюзы па свайму выбару, а таксама ўступаць у прафсаюзы на ўмовах выканання статутных патрабаванняў. Зразумела, што яны маюць права пакідаць прафсаюз, калі статутныя патрабаванні не задавальняюць грамадзяніна або ён незадаволены дзейнасцю дадзенага саюза.

Але ж у нас чыноўнікі ставяць свае погляды і прыярытэты вышэй за закон. Для ўрэгулявання сітуацыі на мікашэвіцкі «Граніт» прыехалі міністр архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Нічкасаў і старшыня брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар. Галоўны абласны «вертыкальшчык» на сустрэчы з калектывам паабяцаў пакараць адарваных ад народа кіраўнікоў, навесці парадак з аплатай, і ўвогуле вырашыць усе праблемы. Магчыма, што так яно і мае быць, бо «Граніт» з'яўляецца дзяржаўным прадпрыемствам. І каму ж, як не галоўнаму прадстаўніку наймальніка ў вобласці вырашаць гэтыя праблемы. У той жа час, на думку Сумара, немэтазгодна ствараць на прадпрыемстве, якое стабільна працуе, альтэрнатыўны афіцыйнаму прафсаюз, ды яшчэ патрабаваць штаб-кватэру для яго.

Цяжка сказаць, што тут ад недасведчанасці, што ад пачуцця страху ад кожнай непадкантрольнай ініцыятывы знізу. Бо на самай справе незалежны прафсаюзны рух дазваляе ўладам скіраваць ініцыятыву працоўных ад палітыкі да барацьбы за свае эканамічныя інтарэсы. Аб гэтым пісаў яшчэ Ленін. Бо ўрад зацікаўлены не столькі ў звышпрыбытках прыватнага капіталу, колькі ў захаванні сацыяльнага спакою, якія адпавядае інтарэсам усіх класаў і сацыяльных груп. Мэтай прафсаюзнага руху з'яўляецца «капейка», мэтай рэвалюцыйнага руху — ідэалагічная тэорыя.

Створаная ў нас улада сама па сабе з'яўляецца чыстай ідэалагічнай тэорыяй, у цэнтры якой стаіць бездакорная фігура галоўнага справядлівага правіцеля, што клапоціцца пра свой народ.

## 29 студзеня, нядзеля

### 1 Беларусь

**06.55** Меладрама «Дунечка» («Беларусьфільм»).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.20** Да цешчы на бліны.
**10.55** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Камедыя «Вяселле ў Малінаўцы» (СССР).
**14.00** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Тэлефільм АТН «Глуск» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Гістарычная драма «Талаш» («Беларусьфільм»). 3-я і 4-я серыі, заключная.
**17.40** Дакументальны фільм «Беларускі космас» («Беларусьфільм»).
**18.15** Суперлата.
**19.05** Авантурная камедыя «Як зарабіць 20 мільёнаў баксаў» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Баявік «Шлях клінка» (ЗША).

### Н

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** Дзень Уладзіміра Высоцкага.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.35** «Эстрадны кактэйль».
**17.45** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**18.55** Прэм'ера. «Першы клас».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.15** Фільм «Жыццё Дэвіда Гейла».

### ТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.20** «Салдаты. Дзембельскі альбом». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.35** «Вялікі сняданак».
**11.15** Фільм «Мая супер-былая». ЗША, 2006 г.
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.25** Фільм «Труфальдзіна з Бергама». СССР, 1976 г.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Камедыя «Прышэльцы на гарышчы». ЗША-Канада, 2009 г.
**22.20** «Прафесійны бокс».
**23.20** Фільм «Мігель і Уільям». Іспанія, 2007 г.

### 2 Беларусь

**08.20** Прыступкі Веры.
**08.35** Кожны мае права быць розным.
**09.00** Камедыя «Таксі-4» (Францыя).
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Школа рамонту.
**11.50** Вышэй за дах.
**12.25** Шоў «Інтуіцыя».
**13.25** Бухта капітанаў.
**14.05** Кінаспробы.
**14.35** Іранічны дэтэктыў «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан».
**18.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**18.55** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Камедыя «Таксі-4» (Францыя).
**23.15** Шоў «Інтуіцыя».
**00.05** Камедыя «Апошняя просьба» (ЗША).

### Мир

**06.00** Д/ф «Маналогі пра Іллю Авербаха».
**06.50** «Смачны свет».
**07.20, 04.10** М/ф «Прыміце выклік, Сіньёры!».
**08.55** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**09.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**09.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**09.45** «Эксперыментатары».
**10.00, 16.00** Навіны Садружнасці.
**10.10** «Ведаем рускую».
**11.10, 05.25** «Даведнік».
**11.40** Т/с «Восеньскі дэтэктыў».
**14.00** Д/с «Доказы віны».
**15.00** «Правілы жыцця».
**16.10** Канцэрт.
**17.30** «Простыя лікі».
**18.00** Т/с «Каханне і іншыя дурасці».
**21.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** М/ф «Аб бедным гусары замоўце слова…».
**01.00** «Паўночнікі».
**01.40** М/ф «Матацыклістка».
**03.20** «Навіны садружнасці. Культура».

### Discovery Channel

**05.00** Вокамгненныя катастрофы: серыі 53–54.
**05.55** Новы свет.
**06.50** Разбуральнікі легенд.
**07.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?: серыя 8.
**08.40** Залатая ліхаманка: серыя 2.
**09.35** Вугаль: серыя 2.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Пэн і Тэлер, праўда і хлусня: серыя 5.
**12.20** Разбуральнікі легенд: серыя 175.
**13.15** Чаму? Пытанні светабудовы.
**14.10** Выжыць любым коштам.
**15.05** Півавары.
**16.00, 16.30, 17.00, 17.30** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**18.00** Класіка з Паўднёвага пляжу: серыя 5.
**18.30** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**19.00** Разбуральнікі легенд: серыя 175.
**20.00** Хлопцы з гарматамі.
**21.00** Нічога асабістага.
**22.00** Рос Кэмп: экстрэмальны свет: серыя 2.
**23.00, 23.30** Дэмантаж.
**00.00** Лесапавал на балотах: серыя 13.
**00.55** Разбуральнікі легенд.
**01.50** Новы свет.
**02.45** Як гэта ўладкавана?
**03.10** Кітай: Старажытны Пекін.
**04.05** Грандыёзныя пераезды: серыя 2.

### Eurosport

**00.00** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Адвольная праграма. Жанчыны.
**01.15** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Фінал. Жанчыны.
**02.30** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**02.45** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі.
**11.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**11.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**11.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрытае першынство Аўстраліі. Фінал Мужчыны.
**14.30** Горныя лыжы: Кубак свету. Супер-Гігант Мужчыны.
**16.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Камбінаваны слалам.
**16.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. HS 134.
**17.45** Фігурнае катанне: Чэмпіянат Еўропы. Паказальныя выступ.
**19.00** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Гонка пераследу.
**19.45** Біятлон: Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Гонка пераследу.
**20.15** Тэніс: Гейм, сэт і Матс.
**20.30** Футбол: Кубак Афрыканскіх Нацый.

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 10 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.40** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.40** На колах.
**10.10** Асабісты капітал.
**10.25** Два на два (тэледыскусія).
**10.50** «Молатаў: цень Сталіна», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**11.45** Форум (ток-шоу).
**12.30** «Апантаныя», дак. цыкл: 8 серыя.
**12.40** «Тэра постсаветыка. Начная Масква», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.05** Калыханка для самых маленькіх.
**13.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**13.40** «Праўдзівая рамантыка», маст. фільм, 1993 г., Канада.
**15.30** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 11 серыя.
**18.00** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.35** Два на два (тэледыскусія).
**19.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 7 серыя.
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.35** Калыханка для самых маленькіх.
**19.50** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г., Францыя: 1 серыя: «Робэрт Кенэдзі – канец амерыканскае мары».
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Таемнасці», маст. фільм, 2007 г., Чэхія–Славакія.
**23.45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**23.55** Тыдзень у «Аб'ектыве».

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за рзуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ІМІДЖ

# ВОВА І МЯДЗВЕДЗІ

Алег НОВІКАЎ

**Нельга ўявіць антыпуцінскую апазіцыю без барацьбы супраць вобраза мядзведзя — сімвала партыі «Адзіная Расія».**




Тыя рускія нацыяналісты, якія выступаюць супраць Пуціна, нечакана пачалі адзначаць: культ мядзведзя быў распаўсюджаны, як правіла, у фіна-угорскіх народаў, а не ў славян

Самае дзіўнае, што свайму славутаму вобразу «Адзіная Расія» абавязана Барысу Беразоўскаму, асабістаму галоўнаму ворагу Пуціна. Менавіта яго паліттэхнолагі прыдумалі выкарыстоўваць для Міжрэгіянальнага руху «Адзінства» ў якасці палітычнай рэкламы вобраз касалапага. З самага з'яўлення гэтага палітычнага аб'яднання спачатку публіцыстамі, а затым і палітыкамі словазлучэнне Міжрэгіянальны рух «Адзінства» было ператворана ў абрэвіятуру МеДвЕд.

Паступова «Адзінства» сталі зваць проста партыяй «Мядзведзь», а яе сяброў «мядзведзямі». Гэта стыхійнае вобразнае абазначэнне так моцна прыляпілася да «Адзінства», што яе заснавальнікі вырашылі абраць знакам аб'яднання мядзведзя.

Падчас кампаніі 1999 года знак мядзведзя, які выкарыстоўвала «Адзінства», быў увасоблены ў слогане: «Хто ў лесе гаспадар?» Была зроблена серыя рэкламных мультыплікацыйных ролікаў — варыяцыі на тэму рускіх казак з удзелам мядзведзя.

Раней такія прапановы эксплуатаваць брэнд мядзведзя чамусьці не прымаліся. У пачатку 1990-х гадоў у Расіі праводзілі апытанні, ці не змясціць выяву мядзведзя на гербе краіны, і толькі нешматлікія ўдзельнікі апытанняў ухвалілі прапанову. У 1998 годзе паліттэхнолагі прапанавалі мішку ў якасці знака ўлады на выбарах Лужкову. Той адмовіўся, заявіўшы, што калі кажуць пра мядзведзя, усе думаюць пра Ельцына.

Магчыма, Лужкоў таксама памятаў часы «халоднай вайны», калі «рускі мядзведзь» быў сінонімам агрэсіўнага савецкага камунізму. Дарэчы, на Захадзе існуе старая традыцыя выяўляць Расію ў выглядзе мядзведзя. Лічыцца, што гэты прыём укараніўся пасля падаўлення Другога польскага паўстання. Не дарма ў тым ліку для разбурэння гэтай забабоны ў якасці сімвалу маскоўскай алімпіяды быў абраны мядзведзь. «Наш ласковый Миша» павінен быў разбурыць хадульны стэрэатып Расіі ў свеце. Праўда, працаўнікі СССР усё роўна не паверылі ва ўсмешку алімпійскага сімвала. Ва ўсходнееўрапейскіх краінах — сатэлітах СССР — дысідэнты вельмі часта малявалі алімпійскага мядзведзя з калашнікавым.



Між тым, у 2001 годзе адбылося зліццё партый «Айчына», «Уся Расія» і «Адзінства» ў адзіную фракцыю. Аб'яднанне адбылося пад эгідай «Адзінай Расіі «, эмблемай якой стаў сімвал «Адзінства» — буры мядзведзь. Хутка пуцінцы прыдумалі новыя палітычныя канатацыі для жывёлы. Яны актыўна выкарыстоўвалі выяву спячага мядзведзя, з якім адбываецца цуд: ён прачынаецца — і ўся Расія ўздымаецца. Адначасова вобраз пуцінскай Расіі добра ўкладваўся ў фальклорную прымаўку: «нельга будзіць мядзведзя».

Усе гады кіравання Пуціна — гэта маніпуляцыя з вобразам жывёліны. Моладзевая секцыя «Адзінай Расіі», якая аб'ядноўвае дзяцей з 8 гадоў, таксама абрала сабе характэрную назву «Мішкі». 2008 год адзначаўся ў краіне як год мядзведзя. Узніклі шматлікія рынкавыя брэнды, якія яўна выкарыстоўваюць сімволіку рэжыму. Напрыклад, у расійскіх крамах можна набыць гарэлку «Вова і мядзведзі». Свой унёсак у справу зрабіла і прозвішча прэзідэнта Мядзведзева. Дарэчы, ён лічыў магчымым жартаваць наступным чынам: «Я і сам з роду мядзведзяў». Асноўным чыннікам ператварэння выявы мядзведзя ў фактар унутранай палітыкі з'яўляецца імкненне прадставіць яго ў якасці знака «сапраўднай рускасці». Мядзведзь становіцца ўвасабленнем нацыянальнай ідэі.

Захад ахвотна падтрымаў істэрыку вакол мядзведзя, хаця пасля заканчэння «халоднай вайны» там казалі, што мядзвежая метафара Расіі павінна застацца ў гісторыі. «Мядзвежая паранойя» — так ахарактарызавала асвятленне расійска-грузінскага канфлікту ў заходніх СМІ брытанская газета «The Independent». А на конкурсе World Press Cartoon у 2007 годзе першае месца заняла карыкатура, якая выяўляе Уладзіміра Пуціна ў абліччы мядзведзя, што точыць свае кіпцюры.

Захапіўшы брэнд, у Крамлі ігнаравалі культуролагаў, якія яшчэ на стадыі раскруткі вобразу мішкі казалі пра яго супярэчлівасць. На думку навукоўцаў, мядзведзь — у славянскай міфалогіі амбівалентны вобраз. Так, у фальклоры мішка — гаспадар лесу. Пра яго кажуць з павагай. У яго адмысловы статус: ён ведае мёдам, лесам, светам. Аднак пры гэтым ён вялікі гультай. Любіць спаць, трошкі наіўны. Часта ў рускіх казках мядзведзь увасабляе дурасць, некампетэнтнасць. Ён часта «на аўтамаце» падтрымлівае любую ініцыятыву

Нарэшце, мішка нематываваная агрэсіўны. Памятаеце пачатак адной з казак: «Стары пайшоў па дровы; патрапіўся яму насустрач мядзведзь і кажа: «Давай, стары, дужацца».

Усе гэтыя негатыўныя якасці Ursus arctos (так па-лацінску называецца буры мішка) дарэчы, вельмі добра адлюстраваныя ў народных рускіх прыказках. «Медведь дожидает того, как бы содрать кожу с кого», «Силен медведь, да в болоте лежит». Таксама варта згадаць, што ў рускім крымінальным жаргоне «медвежатниками» завуць узломшчыкаў сейфаў.

Іншымі словамі, імідж мядзведзя далёка не адназначны. І як толькі ў Расіі пачаўся новы палітычны цыкл, усе адмоўныя рысы жывёлы згадалі, каб атакаваць тых, хто легітымізуе сваю ўладу за кошт эксплуатацыі яго вобразу.

Напрыклад, на плакаце Кампартыі ў час апошніх думскіх выбараў было напісана: «Супраць партыі мядзвежых паслуг». Зюганаўцам таксама належыць плакат, на якім рабочы і калгасніца даюць мядзведзю пад зад. У рунэце папулярны лозунг: «Гэта не мядзведзі, а казлы». Мядзведзя таксама малююць з мехам у лапах. Намёк на тое, што адзінаросы — героі шматлікіх карупцыйных скандалаў.

Адразу ўзгадалі ўсё негатыўнае, што звязанае з мядзведзямі ў гісторыі краіны. Аказваецца, мядзведзь — гэта ідэнтыфікацыя чагосьці несур'ёзнага, блазенскага. З дрэсіраванымі мядзведзямі хадзілі па Расіі з даўніх часоў. Мядзвежая пацеха некалькі разоў згадваецца ў зборніку «Домострой», які асуджае яе як «богомерзкое дело».

Тыя рускія нацыяналісты, якія выступаюць супраць Пуціна, нечакана пачалі адзначаць: культ мядзведзя быў распаўсюджаны, як правіла, у фіна-угорскіх народаў, а не ў славян. А праваслаўная царква ўвогуле бачыла ў гэтым кульце элементы паганства і змагалася з ім.

А як не згадаць пра месца мядзведзя ў рускай класічнай літаратуры. Дастаткова прыгадаць «забавы» Кірылы Пятровіча Траякурава ў «Дуброўскім», «Генерала Таптыгіна» Някрасава, гусарскія гулянкі, апісаныя ў рамане Льва Талстога «Вайна і мір». У дадзеных творах магчымасць таго ці іншага героя маніпуляваць, кіраваць мядзведзем з'яўляецца знакам прыналежнасці да класу іерархаў.

Відавочна, што ў цяперашняй Расіі, дзе слова «мядзведзі» значыць урадавую партыю, вобраз мядзведзя выйшаў за межы простай сімпатыі і антыпатыі. Прычым справа зайшла настолькі далёка, што раздаюцца заклікі, каб увесці забарону на выкарыстанне выяваў жывёл у рэкламе палітычных партый.

Адзін з блогераў скардзіцца: «Амаль усе дзеці спяць з плюшавымі медзведзянятамі. А зараз бацькі ў іх прысутнасці лаюць «Адзіную Расію». А гэта наносіць траўму дзіцячай псіхіцы. Выява мядзведзя ў свядомасці людзей ператвараецца ў выяву подлага, зласлівага, хітрага і скваплівага звера».

Крах крамлёўскай машыны маніпуляцыі брэндам мядзведзя, безумоўна, добры ўрок палітыкам. Толькі перад мядзведзямі трохі сорамна. Жывёлы дакладна тут не пры чым.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эканамічныя ўзаемаадносіны паміж Казахстанам і Беларуссю не сталі шчыльней, нягледзячы на стварэнне Адзінай эканамічнай прасторы, адзначаюць эксперты. Казахскі капітал амаль не прадстаўлены ў беларускай эканоміцы. Абедзве краіны актыўна супрацоўнічаюць толькі з Расіяй. Такім чынам, на сённяшні дзень можна канстатаваць, што ЕЭП не адпавядае пастаўленым задачам. Краіны Мытнага саюзу з такім жа поспехам маглі б умацоўваць эканамічныя сувязі ў двухбаковым парадку. А еўразійская інтэграцыя застаецца толькі на паперы і ў гучных заявах палітыкаў.

**«Республика» (Казахстан)**

Прыватызацыя — справа супярэчлівая. Жадаючы атрымаць мільярды, не губляючы кантролю над прадпрыемствамі, Лукашэнка такія прадпрыемствы, як «Беларуськалій», ацаніў настолькі высока, што яго зараз ніхто не хоча купляць. Аднак Беларусь усё больш залежыць ад фінансавай дапамогі з боку Расіі. Гэта на руку тым, што жадае набыць актывы прадпрыемстваў краіны па смешным нізкім кошце.

**«Die Presse» (Аўстрыя)**

Эканамічныя і палітычныя свабоды, якія з'явіліся ў Беларусі напярэдадні мінулых прэзідэнцкіх выбараў, былі вынікам збліжэння афіцыйнага Мінска і Брусэля. Лукашэнка разлічваў, што, імітуючы дэмакратыю і лібералізацыю, даб'ецца прызнання вынікаў выбараў. Еўропа спадзявалася, што паступова імітацыя стане рэальнай лібералізацыяй і дэмакратыяй. Аднак разгон мірнай дэманстрацыі 19 снежня 2010 года і жорсткія рэпрэсіі разбурылі кволы мірны пакт Мінску і Брусэля. У Беларусі няма неабходнасці аглядацца на цывілізаваны свет пры прыняцці тых ці іншых рашэнняў. Што да пагаршэння інвестыцыйнага клімату, пра што папярэджваюць эксперты, то, верагодна, і гэта ўжо не страшна ўладам Беларусі — замежныя інвестыцыі і так на ўзроўні статыстычнай памылкі, а расійскія кампаніі, якія прыходзяць на беларускі рынак, умеюць адаптоўвацца да беларускіх рэалій.

**«Независимая газета» (Расія)**

Выцiскаючы палітычных супернікаў за межы рэспублікі, улады паволі спрыяюць росту сумневаў навакольнага свету ва ўласнай легітымнасці. Апаненты ўлады з малавядомых у Беларусі палітычных лідараў маленечкіх партый і рухаў, палітычных аналітыкаў, цікавых толькі спецыялістам і актывістам, выехаўшы за мяжу, апынаюцца ў зусім іншым палітычным і інфармацыйным асяроддзі. Іх уяўленні пра рэжым А. Лукашэнкі становяцца вядомыя сотням мільёнаў. За імі палюючь СМІ, яны выступаюць у лепшы час на тэлеканалах, чыя аўдыторыя перавышае колькасць насельніцтва Беларусі ў дзясяткі разоў. Паказальнікам развіцця дадзенага працэсу можа стаць сітуацыя, калі палітычная эміграцыя пачне набываць манаполію на трактоўку беларускага пытання ў суседніх дзяржавах і ЕС. Няма патрэбы казаць, што палітычная эміграцыя блізкая да такой стадыі, і ў гэтым рэжым А. Лукашэнкі фактычна дапамагае.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. ЦІ ЗАСУДЗЯЦЬ ЯНУКОВІЧА ЗА ЗАБАРОНУ СВЯТА МАЙДАНУ?

Украінская апазіцыя ў асобе Святланы Ніколінай, старшыні Украінскай народнай партыі, намагаецца засудзіць Віктара Януковіча за яго рашэнне адмяніць святкаванне 22 лістапада. З 2005 года ў гэты дзень краіна святкавала Дзень свабоды, прымеркаваны да дня пачатку Аранжавай рэвалюцыі 2004-га. Цяперашні прэзідэнт вырашыў скасаваць свята Аранжавай рэвалюцыі шляхам аб'яднання яго з днём Саборнасці — свята ў гонар аб'яднання Заходняй і Усходняй Украіны, якое адзначаюць з 1919 года. Саборнасць на Украіне святкуюць 22 студзеня. Апазіцыя ў сваю чаргу лічыць, што такі падыход не мае логікі, паколькі Майдан 2004 года і свята з нагоды адзінства Украіны — абсалютна розныя тэмы. На думку Ніколінай і яе паплечнікаў, Янукович намагаецца як мага хутчэй выкінуць з калектыўнай памяці ўкраінцаў падзеі лістапада 2004-га, што можа натхніць іх на новыя антыўрадавыя пратэсты. Дарэчы, ініцыятары адмены Дня свабоды (адпаведна афіцыйнай версіі, святкаванне 22 лістапада забаранілі па просьбе грамадскасці) не хаваюць, у адрозненні ад Януковіча, сапраўдных матываў забароны. Так, лідар жаночай арганізацыі «Берегиня світу», па просьбе якой у тым ліку скасавалі свята, адкрытым тэкстам кажа: 22 лістапада — не месца ў календары чырвоных дат, паколькі гэты дзень быццам адкінуў краіну на сем гадоў назад у сацыяльна-эканамічным развіцці.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. КАНЦЛАГЕР ДЛЯ ТЫХ, ХТО НЕ СМУТКАВАЎ

Калі верыць нямецкай прэсе, у Паўночнай Карэі прыняты спецыяльныя захады супраць тых, хто недастаткова смуткаваў з нагоды смерці любімага кіраўніка Кім Чэн Іра, які памер 19 снежня. Як пішуць газеты, тыя грамадзяне КНДР, хто мала плакаў на афіцыйных жалобных мерапрыемствах, будуць адпраўлены ў турэмныя лагеры. Пакаранне за злачынства складае 6 месяцаў. У якасці аргументу ўлады кажуць, што глыбока смуткаваць з нагоды смерці любімага кіраўніка (афіцыйны тытул Кім Чэн Іра) — грамадзянскі абавязак. Першыя працэсы па справах недастатковага выказвання пачуцця смутку па правадыру адбыліся ў правінцыі Паўночны Намкунг. Асуджаным прад'яўляліся фантастычныя абвінавачанні — не ўдзельнічаў у сходах наконт смерці правадыра, падчас сходаў не выклікаў уражання, што сапраўды смуткуе па смерці Кім Чэн Іра. Калі зноў жа верыць нямецкім выданням, за недастатковае ўшанаванне памяці лідара свабодай паплаціліся цэлыя сем'і.

**Паводле нямецкай прэсы**

### БОСНІЯ І ГЕРЦАГАВІНА. 20 ГАДОЎ ДЗЯРЖАВЕ КАРАДЖЫЧА

Вялікі шок выклікала ў свеце навіна з Босніі і Герцагавіны, дзе кіраўніцтва сербскай аўтаноміі 9 студзеня адзначыла 20-ю гадавіну стварэння Рэспублікі Сербаў Босніі і Герцагавіны. Так называлася дзяржаўнае фармаванне, створанае сербамі на гэтай частцы тэрыторыі саюзнай рэспублікі Боснія і Герцагавіна. Узначаліў яе прызнаную нікім, акрамя Бялграду, дзяржаву той самы Радаван Караджыч, які пазней арганізаваў этнічны генацыд мусульман і харватаў. Не кажучы пра тое, што сам сербскі анклаў стаў гіганцкім цэнтрам трафіку зброі і наркотыкаў. Рэспубліка Сербаў Босніі і Герцагавіны заставалася самаабвешчанай і непрызнанай да лістапада 1995 года, калі пад ціскам NATO і ААН былі падпісаныя так званыя Дэйтанскія дамовы і створаная федэратыўная дзяржава Боснія і Герцагавіна, куды яна ўвайшла. На думку Еўропы, такая ўвага баснійскіх сербаў да часоў Караджыча вельмі супярэчлівая і можа спрыяць развалу Босніі і Герцагавіны. Аднак, магчыма, ушанаванне гадавіны сепарацысцкай рэспублікі — не выпадковасць. 15 лютага адбудзецца рэферэндум касоўскіх сербаў аб выхадзе з Косава і стварэнні асобнай дзяржавы. Такім чынам, сербы, святкуючы юбілей дзяржавы Караджыча, быццам папярэджваюць Захад аб тым, што не выключаны рэмейк гісторыі Рэспублікі Сербаў Босніі і Герцагавіны.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. ЧЫРВОНЫЯ ПУЦІНІСТЫ

Абвешчана пра стварэнне ўсерасійскага руху Блок камуністаў і беспартыйных «За Пуціна». Яго прыхільнікі крытыкуюць «белых, з Балотнай, як удзельнікаў чужой гульні супраць Расіі, якой кіруюць з-за мяжы», і заяўляюць, што падтрымліваюць Пуціна як народнага кандыдата. «Мы не сумняваемся, што ён будзе абраны, абраны па волі ўсяго рускага народа», — гаворыцца ў заяве «чырвоных пуціністаў». Па словах актывістаў, у цяперашняй «барацьбе супраць рускага народа і дзяржавы» задзейнічана «прыціснутая Пуціным старая алігархія 1990-х». «Гарбачоў раіць: «Пуцін, сыдзі». Віцэ-прэзідэнт ЗША асабіста прызыджае палохаць Пуціна — не выстаўляй сваю кандыдатуру, горш будзе. Дзяржсакратар Клінтан паказвае рускім, што ім не варта выбіраць прэзідэнтам Расіі Пуціна. «Вылучэнне Пуціна — дрэнная ідэя, яна прывядзе да беспарадкаў», — яшчэ больш выразна папярэджвае Кандаліза Райс. Мы пасылаем вас, спадары сакратаркі, па вядомым рускім адрасе», — кажуць ініцыятары Блоку камуністаў і беспартыйных. Паведамляецца таксама, што на ўзроўні кіраўніцтва КПРФ ужо «прагучала пагроза расправіцца» з сябрамі партыі, якія падтрымалі рух. Хутчэй за ўсё, «чырвоныя пуціністы» — ініцыятыва Крамля. Раней шмат сяброў КПРФ сапраўды выступалі супраць ідэі ўдзелу ў мітынгах разам з дэмакратычнай апазіцыяй.

**Паводле расійскай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА

# АПОШНІЯ ДНІ БРЫТАНІІ

**Алег НОВІКАЎ**

**Алекс Салмонд, прэм'ер Шатландыі, абвясціў пра намер правесці рэферэндум наконт выхаду краю са складу Вялікабрытаніі. Як ні парадаксальна, аднак галоўны саюзнік шатландскіх сепаратыстаў — англійскія нацыяналісты.**




Заява, якую шатландскі прэм'ер агучыў 11 студзеня, на першы погляд падаецца актам палітычнага валюнтарызму. Толькі трэцяя частка шатландцаў, адпаведна апошнім апытанням, выступае за з'яўленне на мапе незалежнай Шатландыі. І гэта не дзіўна: інкарпарацыя Шатландыі ў склад Вялікабрытаніі была ў свой час настолькі моцная, што шатландцы нават забылі сваю мову (у 2001 годзе на матчынай мове размаўлялі 1,2 працэнта насельніцтва). Часам у брытанскай палітычнай дыскусіі нават ужываўся тэрмін не «Шатландыя», а «Шатландскі раён» (Scotlandshire).

За кошт каго і чаго можа павялічыцца да 2014 года (дата запланаванага рэферэндуму) колькасць аматараў адраджэння зніклай у 1707 годзе з мапы свету шатландскай дзяржавы, на першы погляд, не зразумела. Зараз, у час крызісу, усе вымяраецца праз эканоміку. А тут нацыяналістам прапанаваць асабліва няма чаго. Урадавая Шатландская нацыянальная партыя (SNP) раней шмат казала пра тое, што Шатландыя можа стаць другім пасля Ірландыі «эканамічным кельцкім тыграм». Аднак пасля таго, як ірландская эканоміка ляснулася, перспектыва стаць другой Ірландыі мала каго прываблівае.

Аднак, магчыма, надзеі Салмонда перамагчы на рэферэндуме не такія ўжо і кепскія. Варта згадаць кнігу «Не будзіце мой меч» Сімона Хефера, прысвечаную феномену англійскага і шатландскага нацыяналізму. Галоўная ідэя кнігі — «шатландскі нацыяналізм — гэта штуршок англійскага». Іншымі словамі, калі заява Салмонда выклікае ўздым у Англіі нацыяналістычных настрояў, то шанцы на перамогу ў SNP ёсць.

Англія і без таго апошні часам перажывае час буйнага станаўлення англійскай свядомасці, і галоўным чыннікам тут сапраўды выступае адмоўнае стаўленне да шатландцаў.

Па-першае, у англійскім соцыуме гістарычна існуюць падставы для антыпатый супраць горцаў. Яны ўзніклі ў XVII стагоддзі, калі Эдынбург актыўна падтрымліваў змовы ў Англіі з мэтай вярнуць на брытанскі трон прадстаўнікоў дынастыі Сцюартаў, якія таксама сядзелі на шатландскім троне. У якасці адказу каралеўскі двор у Лондане пачаў прапагандысцкую вайну. Актыўна друкаваліся памфлеты пра дзікуноў-шатландцаў, якія ў дадатак быццам былі канібаламі.

Менавіта з першымі дэбатамі ў 1960-я гады наконт стварэння шатландскай аўтаноміі звязаныя спробы арганізацыі англійскіх нацыяналістычных партый. Іх стваральнікамі былі радыкальныя левыя, якія разглядалі англійскі нацыяналізм таксама як пратэст супраць брытанскага нацыяналізму, які абараняла кансерватыўная партыя. Найбольш далёка тут пайшла мааісцкая тэрарыстычная групоўка «Фронт нацыянальнага вызвалення Англіі», якая планавала забіць Дзіяну Спенсер у дзень яе шлюбу з прынцам Чарльзам.

Новая хваля адраджэння пачынаецца пасля 1988 года, калі шатландцы дзякуючы лейбарыстам Тоні Блэра атрымалі аўтаномію і парламент. Адразу на павестцы дня паўстала дылема пад назвай West Lothian Question. Гэта тэма ўзнікла яшчэ ў 1977 годзе, калі падчас дэбатаў наконт магчымага стварэння шатландскага парламенту дэпутат лейбарыстаў з акругі West Lothian адзначыў супярэчнасць законапраекту. Калі парламент у Эдынбургу будзе створаны, то шатландцы ў брытанскім парламенце змогуць галасаваць па пытаннях унутранай англійскай палітыкі. У сваю чаргу, англійскія дэпутаты не маюць права лезці ў справы аўтаномнай Шатландыі.

Гэта пытанне стала вельмі актуальным апошнім часам. Так здарылася, што менавіта дзякуючы галасам дэпутатаў з Шатландыі вырашаецца лёс галоўных законапраектаў у парламенце Вялікабрытаніі, у тым ліку тых, якія тычацца Англіі. Сярод палітолагаў нават узнік тэрмін «шатландская мафія». Часам тыя галасаванні выклікаюць масавае незадавальненне. Так, дзякуючы галасам шатландцаў быў прыняты закон аб платнай адукацыі ў англійскіх ВНУ (у Шатландыі вышэйшая адукацыя засталася бясплатнай).

Яшчэ ў 1989 годзе на глебе праблемы West Lothian Question пачалася грамадская кампанія за стварэнне англійскага парламенту, які б як мінімум меў тыя ж паўнамоцтвы, які і шатландскі. Адначасова як грыбы пасля дажджу паўсталі англійскія нацыяналістычныя партыі кшталту Свабоднай англійскай партыі або Англійскіх дэмакратаў. Англійскія дэмакраты ўвогуле заклікалі да перагляду адміністратыўных межаў паміж Англіяй і тым жа Уэльсам. Праўда, уплыў англійскіх незалежнікаў на грамадства невялікі і звязаны з тым, што ролю полюса англійскага нацыяналізму ўсё больш і больш пачынае выконваць партыя кансерватараў.

Усё таму, што англійскі нацыяналізм, у адрозненні ад шатландскага, больш правы. Гэта часткова звязана з тым, што SNP — па-сутнасці сацыял-дэмакратычная партыя. Увогуле, Шатландыя галасуе за левых. Нядзіўна, што пасля дзяжурнага катастрафічнага правалу кансерватараў у Шатландыі на выбарах 1997 года сярод кансерватараў узнікла крамольная думка — даць шатландцам волю і такім чынам змяніць расклад у брытанскім парламенце. Калі прыбраць адтуль 119 дэпутатаў з Шатландыі (галоўным чынам нацыяналісты і лейбарысты), фракцыя торы становіцца дамінуючай. Адсюль новыя трэнды сярод правых. Яны гатовыя адмовіцца ад гістарычнай канцэпцыі «брытанскасці» на карысць ідэі англійскага нацыяналізму.

Як толькі ў 2010 годзе на выбарах у Палату абшчынаў перамаглі кансерватары, Дэвід Кэмеран стварыў так званую камісію Кенета Кларка, якая мусіла вырашыць праблему West Lothian Question. На самай справе, на думку аналітыкаў, тая камісія рыхтуе юрыдычнае абгрунтаванне для стварэння асобнага англійскага парламенту. Гэта будзе значыць ператварэнне Вялікабрытаніі ў федэральную дзяржаву, дзе парламент будзе вызначаць толькі глабальныя праблемы кшталту абароны або міжнароднай палітыкі.

Дэбаты вакол рэферэндуму могуць стаць пачаткам таго, што торы канчаткова адмовяцца ад канцэпцыі «брытанскі народ». Нават калі не адмовяцца, каскад англійскай нацыяналістычнай (чытай, ксенафобскай антышатландскай рыторыкі) з іх боку забяспечаны, што прывядзе ў дзеянне тую самую формулу Сімона Хефера і можа даць партыі Салмонда патрэбную колькасць галасоў на плебісцыце.

Пра ролю псіхалагічнага фактара ў цяперашняй палітыкі сведчыць цікавая гісторыя 2006 года, калі ў лонданскай жоўтай газеце «The Sun» з'явіўся артыкул, прысвечаны бойкам фанатаў англійскай і шатландскай зборных па футболу. Выданне суцешыла англічан тым, што шатландцы «памруць раней за нас», спасылаючыся на тое, што ўзровень жыцця на поўначы ніжэй, чым у Англіі. Публікацыя мела вялікі негатыўны рэзананс у Шатландыі. Застаецца сказаць, што праз год SNP упершыню выйграла выбары ў шатландскі парламент, а Алекс Салмонд стаў прэм'ерам.

МЕРКАВАННЕ

# МОНТЭ-КРЫСТА СУПРАЦЬ СААКАШВІЛІ

**Палітычны пейзаж Грузіі змяніўся пасля таго, як мільярдэр Бідзіна (Барыс) Іванішвілі кінуў выклік рэжыму Міхаіла Саакашвілі. Пра тое, наколькі гэта сур'ёзная пагроза для прэзідэнта Грузіі, журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з грузінскім журналістам Іракліем Амірэджыбі.**



Бідзіна (Барыс) Іванішвілі

***— Чаму вакол Бідзіны Іванішвілі такі арэол загадкавасці і сакрэтнасці?***

— Абумоўлена гэта тым, што шматлікія гады Іванішвілі з'яўляўся фігурай легендарнай, паколькі вёў амаль зачынены лад жыцця. З яго біяграфіі шырокай грамадскасці было вядома толькі тое, што напачатку 1970-х ён, хлопец з беднай сельскай сям'і, прыехаў у Тбілісі, уладкаваўся працаваць на завод і паступіў на вячэрняе аддзяленне аднаго з факультэтаў універсітэта. У гады перабудовы падаўся ў Маскву і разбагацеў. Заснаваў у Тбілісі банк, кампанію і дабрачынны фонд. Пры гэтым сам Іванішвілі на людзях амаль не з'яўляецца. У першыя дні пасля таго, як ён выступіў з палітычнай заявай, тэлеканалы ўвесь час круцілі тры-чатыры кадры з ім, што толькі і атрымалася раскапаць у архівах. Таксама малавядома, чым насамрэч займаецца яго кампанія. Аднак грошы там круцяцца вялікія. У спісе «Форбс» Іванішвілі займае 25-е месца. Яго капітал ацэньваецца ў 5,5 мільярда долараў. Ён актыўна займаўся дабрачыннасцю. Толькі ў 2005–2010 гадах на гэтыя мэты было выдаткавана каля 700 мільёнаў долараў. Многія дзеячы навукі і культуры атрымлівалі штомесячную фінансавую дапамогу, якую празвалі ў народзе "пенсіяй Іванішвілі". Так узнікла казка пра добрага і таямнічага мецэната. Нешта накшталт байкі пра графа Монтэ-Крыста.

***— Як складаліся адносіны мільянера з камандай Саакашвілі?***

— Было вядома, што напачатку ён ставіўся вельмі добра да Саакашвілі і яго асяроддзя, верыў у тое, што аўтары «рэвалюцыі руж» кіруюцца добрымі намерамі і дапамагаў ім як мог. Так працягвалася да восені 2007-га. Пасля жорсткай расправы з дэманстрантамі і разгрому тэлекампаніі «Імедзі», якая належала сябру Бідзіны, паміж ім і Саакашвілі адбыўся разлад. Іванішвілі з'ехаў у родную вёску, дзе жыў амаль бязвыезна, займаючыся сельскай гаспадаркай. Усе спробы Саакашвілі наладзіць кантакты з ім нічым не заканчваліся. Калі меркаваць па двух лістах, якія мільярдэр напісаў для грамадскасці, на вёсцы ён прыняў рашэнне падацца ў палітыку. Прыняць рашэнне пра ўступленне ў палітыку, па словах Іванішвілі, яго вымусілі «татальная манапалізацыя ўлады прэзідэнтам Саакашвілі».

***— За якія змены выступае мільярдэр?***

— Можна вылучыць некалькі ключавых момантаў: усталяванне ў краіне добрага інвестыцыйнага клімату, стварэнне такой колькасці працоўных месцаў, «каб у Грузіі не засталося ніводнага беспрацоўнага»; неадкладныя крокі для ўстанаўлення добрых адносін з Расіяй і адначасовы працяг курсу еўраінтэграцыі і супрацоўніцтва з NATO, судовая рэформа, дэцэнтралізацыя.

***— Гэта тое, пад чым мог бы падпісацца любы ліберал, да якіх належыць і Міхаіл Саакашвілі...***

— Падобная рыторыка, сапраўды, блізкая Міхаілу Саакашвілі. Аднак з'яўленне ў апазіцыі багатага чалавека, які зарабіў сабе трывалы імідж «праўдзівага патрыёта» стала сенсацыяй. Улады даўно ўжо не мелі такога апанента. Сваю ролю адыграла і неадэкватная рэакцыя Саакашвілі. Іванішвілі і яго жонку пазбавілі грузінскага грамадзянства. У прэсе пачалася кампанія наконт таго, што Іванішвілі — праект Пуціна. Адначасова была здзейснена спроба перакрыць фінансавыя крыніцы Іванішвілі ў Грузіі. Нацыянальны банк Грузіі пачаткаў тэрміновую фінансавую рэвізію ў банку Іванішвілі. Гэта стварыла бізнэсмэну імідж ахвяры і выклікала незвычайную кампанію салідарнасці. На наступны дзень у аддзяленнях банка Іванішвілі, па закліку аднаго з мясцовых паэтаў, узніклі чэргі жадаючых адчыніць рахунак. Прыкладна за тыдзень рахункі адкрылі больш за шэсць тысяч чалавек. Сумы былі часта сімвалічныя — пенсіянеры ўносілі ўсяго па некалькі лары. Тым не менш кампанія з'явілася паказчыкам настрою і надзей грамадскасці на змены.

А Іванішвілі заснаваў грамадскі рух пад назвай «Грузінская мара». Ён спадзяецца атрымаць у новым парламенце, які будзе абраны ў кастрычніку, абсалютную (кваліфікацыйную) большасць, для таго, «каб змяніць канстытуцыю, дамагчыся адстаўкі ўрада і неадкладна пачаць працэдуру імпічменту прэзідэнта».

***— Як ставіцца Захад да Іванішвілі?***

— 19 кастрычніка 2011 года, на наступны дзень пасля пачатку праверкі банку Іванішвілі, кіраўнікі 18-ці акрэдытаваных у Грузіі дыпламатычных прадстаўніцтваў на чале з амбасадарам ЗША з'явіліся з візітам у рэзідэнцыю мільярдэра. Гэта адразу астудзіла людзей Саакашвілі. Так, была прыпыненая праверка рахункаў банку. Візіт дыпламатаў быў хутчэй дэманстратыўным актам пратэсту супраць палітычных рэпрэсій. Нават для грузін, не кажучы пра іншаземцаў, Іванішвілі — загадка. Ён ніколі не выступаў публічна, не рабіў заяў. Насельніцтва не ведае, што ён за чалавек, чаго жадае.

***— Ці ёсць нейкая рэакцыя на ініцыятыву Іванішвілі ў Расіі?***

— Асноўны капітал Іванішвілі знаходзіцца ў Расіі, і краіна можа выкарыстоўваць гэта як спосаб уздзеяння на бізнэсмэна. Аднак наўрад ці Масква будзе адкрыта падтрымліваць Грузінскую мару. А вось шматлікія расійскія выданні яму сапраўды сімпатызуюць. Магчыма, гэта звязана з яго меркаваннем пра тое, што вайну ў Паўднёвай Асеціі ў 2008-м пачала Грузія.

***— Ці гатовая старая апазіцыя аб'яднацца вакол фігуры Іванішвілі?***

— Лейбарысты кажуць, што Грузінская мара — гэта персанальны клаваны праект алігарха. Яны звяртаюць увагу на тое, што ўсе рашэнні прымаюцца фактычна на ўзроўні сямейных пасядзелак. Так, вырашана, што партыю павядзе на выбары жонка мільярдэра. Ёй, дарэчы, суд вярнуў грузінскі пашпарт. Называюцца яшчэ некалькі прозвішчаў блізкіх і родных Іванішвілі, якія зоймуць важныя пасады ў арганізацыі. Затое Грузінскую мару падтрымалі рэспубліканцы і свабодныя дэмакраты.

***— Як могуць развівацца падзеі?***

— Складваецца ўражанне, што ўлада знаходзіцца ў нейкай разгубленасці. Апрабаваныя метады падаўлення праяў незадаволенасці і расправы з іншадумцамі — прамываннe мазгоў, падачкі, шантаж і запалохванне — у цяперашняй сітуацыі апынуліся неэфектыўнымі. Мяркую, што ў арсенале нацыяналаў (Нацыянальны грузінскі рух — партыя Саакашвілі) з'явіцца штосьці новае. Можна, напрыклад, згадаць новы, прыняты 28 снежня Выбарчы кодэкс. Закон накіраваны супраць чорных партыйных бухгалтэрый і павінен абмежаваць магчымасць Іванішвілі фінансаваць сваю партыю. Аднак, відавочна, што распачаты працэс стварэння новага цэнтру апазіцыі, гэтым пакуль не спыніць. Праўда, наконт таго, што Іванішвілі стане адзіным кандыдатам апазіцыі, ужо можна спрачацца. З кожным днём свайго знаходжання ў публічнай палітыцы мільярдэр губляе былы імідж. Ужо зараз за 3 месяца палітычнай актыўнасці ён сапсаваў адносіны з некаторымі палітыкамі, палітолагамі і СМІ. Яго сапраўды любілі як мецэната, але гэта не кажа пра тое, што яго абавязкова палюбяць як палітычнага лідара.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### УЛАДЗІСЛАЎ КОСАРАЎ



Косараў — сакратар Камуністычнай народнай партыі Казахстану, якая на парламенцкіх выбарах 15 студзеня прайшла ў парламент, набраўшы 7,1 працэнта галасоў. Справа ў тым, што КПНК — марыянетачная партструктура, створаная ў 2004 годзе, каб адцягнуць увагу грамадства ад апазіцыйнай Кампартыі. Апошняй, дарэчы, увогуле забаранілі на гэты раз удзельнічаць у выбарах. На ўсіх папярэдніх выбарах КПНК малявалі смешныя лічбы ў дыяпазоне 1–3 працэнтаў, а тут нечакана вырашылі паставіць «сямерку». Хутчэй за ўсё, гэта сведчыць пра тое, што ва ўмовах крызісу ў Казахстане вырасла сацыяльная напружанасць, і Назарбаеў вырашыў стварыць свой варыянт КПРФ, якому будзе даручана займацца сацыяльнай дэмагогіяй. Праўда, для гэтага трэба хоць неяк крытыкаваць уладу, як гэта робіць Зюганаў. Шмат хто сумняваецца, што такі фокус атрымаецца ў Косарава. Ён — аўтар самых лісьлівых ацэнак дзейнасці прэзідэнцкай адміністрацыі і дасюль застаецца верным сабе. Так, у першай заяве КПНК, прысвечанай вынікам выбарам, гаворыцца: «Тое, што партыя «Нур Атан» набрала большасць галасоў, не выклікае сумневы ні ў яе апанентаў, ні ў назіральнікаў, ні ў саміх выбарцаў. Безумоўна, яе поспех — гэта паказчык аўтарытэту прэзідэнта краіны, які карыстаецца падтрымкай пераважнай большасці насельніцтва».

### БРЫДЖЫТ БАРДО



Славутая французская актрыса, абаронца праў жывёл умяшалася ў прэзідэнцкую кампанію, якая ідзе ў краіне. Брыджыт асудзіла прапанову Эвы Жалі, кандыдата на пасаду прэзідэнта ад Зялёных. Апошняя прапанавала абвясціць мусульманскі Курбан-байрам і яўрэйскую пасху выходнымі днямі. Бардо нібыта з ланцуга сарвалася. На яе думку, надаць Курбан-байраму статус святочнага дня — гэта значыць санкцыянаваць забойствы дзясяткаў тысяч жывёл, якіх вернікі забіваюць у гэты дзень, прычым часта на вачах публікі. Каран патрабуе, каб на свята была прынесена ахвяра ў выглядзе барана, вярблюда або быка. Між тым, у апошні час забойствы жывёл на Курбан-байрам у некаторых немусульманскіх краінах выклікаюць негатыўнае стаўленне праваабарончых арганізацый, палітыкаў, дзеячаў культуры і простых жыхароў, якія асцерагаюцца таго, што назіранне смерці жывёлы можа адмоўна адбіцца на псіхіцы дзяцей, якія гэта бачаць. У сваю чаргу, Зялёныя назвалі заявы Брыджыт Бардо «расізмам» і нагадалі, што яна з'яўляецца прыхільніцай Нацыянальнага Фронту. Так ці інакш, рэйтынг Жалі пасля разборак з Брыджыт панізіўся амаль на адзін працэнт.

### МАХМУД АХМАДЗІНЕЖАД



Іранскі прэзідэнт зрабіў тур па краінах Лацінскай Амерыкі, што выклікала шмат публікацый у прэсе. Нагадаем, што візіт адбыўся падчас таго, як амерыканскія і брытанскія ВМС пачалі канцэнтрацыю ў раёне Персідскага заліву як адказ на рэалізацыю Тэгеранам атамнай праграмы. У такой сітуацыі Іран павінен шукаць саюзнікаў, і, відавочна, ён разлічвае на Лацінскую Амерыку, дзе моцныя антыамерыканскія традыцыі. Аднак вавяж у рэгіён паказаў, што разлічваць на лацінаамерыканцаў Ірану не варта. Ахмадзінежада віталі краіны, якія ўваходзяць у выразны антыамерыканскі блок — Баліварская альтэрнатыва для Амерыкі (Alba). Гэта Нікарагуа, Куба, Венесуэла і Эквадор. Аднак гэта слабыя саюзнікі. З іншага боку, падтрымліваць Іран адмовілася Бразілія, што стала галоўнай геапалітычнай паразай іранскай дыпламатыі. Нагадаем, што раней Бразілія заўсёды галасавала ў ААН супраць санкцый на адрас Ірану. Аднак на мінулым тыдні ў інтэрв'ю «The Washington Post» бразільскі прэзідэнт паведаміла, што краіна перагледзіць сваю пазіцыю ў Асамблеі. Тое, што заява была роблена ў дні вавяжу Ахмадзінежада па рэгіёну, на думку экспертаў, з'яўляецца індыкатарам пагаршэння адносін паміж краінамі.

▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

**Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ**

◂ **Працяг. Пачатак у №№ 42–47, №1,2**

**Нямецкае інфармацыйнае бюро паведаміла з Мінску, што Вільгельм Кубэ загінуў у час замаху, які быў арганізаваны бальшавіцкімі агентамі, што было пацверджана і з савецкага боку. 24 верасня газета «Правда» паведаміла, што гаўляйтар загінуў ад «меткой партизанской пули».**



Панцеляймон Панамарэнка



Лаўрэнцій Цанава

### Хто за што змагаўся

Гэта памылка ўзнікла ў выніку ўласнай інтэрпрэтацыі паведамлення нямецкага радыё. Камандаванне партызанскага атрада «Дима», у які прыбылі Мазанік, Осіпава і Шчуцкая, не выслала ў Маскву ў ЦШПР паведамлення аб забойстве Кубэ. Гэта можна патлумачыць і тым, што камандаванне атрада «Дима», паводле сучаснай версіі, рыхтавалася да замаху на Кубэ, але даведалася пра яго здзяйсненне толькі з вуснаў не вельмі знаёмых беглых жанчын-уцякачак і паставілася да гэтага асцярожна, дапускаючы, што гэта, магчыма, правакацыя з боку немцаў.

Пра гэта яскрава сведчыў і пазнейшы лёс Мазанік і Осіпавай. Пасля публікацыі артыкула ў часопісе «Работніца» (№7, 1947), некалькі гадоў вакол іх подзвігу панавала глыбокае маўчанне. Між іншым, не згадваў пра іх гераічны ўчынак і тагачасны міністр дзяржаўнай бяспекі БССР Л.Ф. Цанава ў яго вялікай двухтомнай працы аб партызанскай вайне ў Беларусі «Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков» (у 2-х тамах. Мн., 1949–1951), дзе знайшлося месца для значна менш цікавых фактаў.

Для расследавання ўсіх акалічнасцей забойства Кубэ неадкладна была створана Вялікая сацыяльная камісія, якая хутка ўстанавіла, што міну прынесла і паклала пад матрац ложка прыбіральшчыца Алена Рыгораўна Мазанік, якая атрымала міну ад Марыі Барысаўны Осіпавай — партызанскай разведчыцы ці сувязной. Быў раскрыты ўдзел у забойстве і іншых членаў Мінскага антыфашысцкага падполля. Было высветлена, што Мазанік і Осіпава ўцяклі да партызанаў і самалётам перапраўлены ў Маскву. Гэтыя звесткі поўнасцю пацвердзіліся пазней у 1947 годзе, гэта значыць тады, калі ў СССР была яшчэ не вядома справаздача Бандорфа.

Поўнае супадзенне ў паказаннях Мазанік і Осіпавай з вынікамі расследавання Бандорфа адназначна сведчыць пра ўдзел менавіта гэтых жанчын, і толькі іх, у забойстве Кубэ, але гэта не вырашае пытанне, хто быў яго ініцыятарам і арганізатарам.

Пасля безвыніковых шматлікіх спробаў прымусіць Кубэ пакінуць Мінск, у якіх чынны ўдзел бралі найвышэйшыя, пачынаючы ад Гітлера, прадстаўнікі СС, 22 чэрвеня 1943 года ў Мінску ў тэатры на яго быў арганізаваны замах. Міна пад сцэнай павінна была ўзарвацца тады, калі Кубэ выступаў з урачыстай прамовай з нагоды ўтварэння Саюза беларускай моладзі (СБМ). Але выбух адбыўся пазней, вечарам у час спектакля, на якім Кубэ ўжо не прысутнічаў. Загінула 13 чалавек і некалькі дзясяткаў было паранена. Выступаючы на пахаванні над брацкай магілай, мэр горада Мінска Вацлаў Іваноўскі не паўтараў газетных «сенсацый» пра бальшавіцкіх агентаў, а пасля пахавання ў вузейшым коле прысутных сказаў: «Дзякуем і за вызваленне, і за гэтыя вось ахвяры».

Смерць Кубэ была, безумоўна, выгадна савецкім уладам, якім яго палітычныя паводзіны перашкаджалі значна больш за злачынствы СС: эсэсаўцы толькі ўзбуджалі ў грамадстве нянавісць да нямецкіх акупантаў, і партызаны гэтым лёгка карысталіся. Смерць Кубэ была выгадна і кіраўніцтву СС, якое ўжо перабрала ўсе іншыя варыянты пазбавіцца ад гаўляйтара.

Нельга адкінуць і такую версію, што забойства Кубэ было падрыхтавана СС, якое толькі назірала і не перашкаджала гэтай аперацыі.

На карысць гэтай версіі сведчаць наступныя акалічнасці, што вынікаюць з аналізу справаздачы камісіі Бандорфа:

1) Камісія Бандорфа складалася выключна з афіцэраў СС і працавала пад непасрэдным кіраўніцтвам шэфа СС у Мінску, які падпарадкоўваўся Готбергу, Баху і Гімлеру. Гэта дазваляла праціўнікам Кубэ цалкам падпарадкаваць яе вынікі свайму пункту погляду.

2) Следства праводзілася ўсяго 7 дзён — 29 верасня шэф мінскага СД распусціў камісію. Толькі пасля таго «высветлілася», што Мазанік, дапушчаная да працы ў доме Кубэ, была да вайны супрацоўніцай НКУСа, а ў сучасны момант [верасень 1943 г. — А.В.] — член Мінскага антыфашысцкага падполля.

А яна, дарэчы, падпольшчыцай ніколі не была!

У надзвычайна кароткі тэрмін былі выкрыты ўсе падпольшчыкі, якія ўдзельнічалі ў забойстве Кубэ, і ніхто з іх не выкарыстаў магчымасці адразу ўцячы пасля гібелі гаўляйтара. Гэта яскрава сведчыць пра: а) вялікія здольнасці СС ці б) фабрыкацыю і фальсіфікацыю ўсёй справы з забойствам Кубэ, тым больш што ўсіх сведак знішчылі, і сляды іх зніклі назаўсёды.

3). За 7 дзён камісія высветліла, што Мазанік і Осіпаву перапravілі з партызанскага аэрадрома каля Бягомля ў Маскву. Гэта, дарэчы, надзвычай важная акалічнасць ва ўсёй справаздачы, якая яскрава сведчыць пра тое, што СД мела сваіх інфарматараў у партызанскім атрадзе «Дима», куды ўцяклі абедзве жанчыны.

Значэнне гэтага цікавага факта пацвярджаецца яшчэ і тым, што ў савецкім варыянце справаздачы камісіі Бандорфа, якія публікаваліся ўвесь час з купюрамі, гэты пункт быў проста апушчаны.

Вільгельм Кубэ асцерагаўся замаху. У апошнія месяцы свайго жыцця, быццам бы прадчуваючы сваю смерць, ён меркаваў замяніць паліцэйскую ахову вакол свайго дома «ўласнай» аховай, якая павінна была складацца з правераных членаў СД ці маладых фольксдойчаў. Але Гімлер «ні ў якім разе» не пагаджаўся на такія пражэкты. Гэта значыць, што Гімлер поўнасцю трымаў Кубэ ў руках. Смерць Кубэ і па сённяшні дзень не перастае быць таямніцай, нягледзячы на шматлікія згадкі ў даследчай гістарычнай літаратуры на гэтую тэму.

У дзень пахавання Кубэ ў Берліне Гітлер загадаў ад свайго імя ўскласці вянок на яго магілу. А Гімлер сказаў, што толькі смерць выратавала Кубэ ад канцлагера. Даволі шмат супрацьлеглых ацэнак забойства Кубэ ў пасляваенных даследчыкаў, якія займаліся і займаюцца акалічнасцямі яго смерці.

Пасля забойства Кубэ, раніцай 22 верасня, члены Камітэта даверу — Вацлаў Іваноўскі, Юрый Сабалеўскі, Яўген Калубовіч, Міхал Ганько — накіраваліся да начальніка палітычнага аддзела генеральнага камісарыята Беларусі доктара Маркуса з просьбай не ўчыняць рэпрэсій супраць жыхароў Мінска. Але, як вядома, акупанты іх не паслухалі.

За лаўры пераможцаў пачалася барацьба паміж групоўкамі Панцеляймона Панамарэнкі, Пятра Калініна і Лаўрэнція Берыя, Лаўрэнція Цанавы.

Панамарэнка і Цанава пасля забойства Кубэ бамбілі тэлеграмамі камандзіра партызанскага злучэння Барысаўска-Бягомельскай зоны Р.Н. Мачульскага і камандзіра партызанскай брыгады «Железняк» І.П. Ціткова, каб тыя зрабілі ўсё, што ад іх залежыць, і каб ніхто не змог прыпісаць сабе баявых спраў беларускіх партызанаў.

Але іх захады не маглі ўжо паўплываць на змену раскладу вызначэння Герояў Савецкага Саюза.

І доблесныя беларускія партызаны і НКУСаўцы засталіся з носам!

Берыя і Цанава прымушалі на Лубянцы жанчын-бяглянак, каб яны прызналіся, што дзейнічалі ад НКУС СССР І НКУС БССР. Але жанчыны ўпарта стаялі на сваім, што яны былі ў атрадзе «Дима» ад ГРУ ГШ Чырвонай арміі. Берыя і Цанава хацелі прысвоіць сабе гэты подзвіг, усяляк застрашвалі жанчын і таму на допытах звычайна прысутнічаў начальнік ГРУ ГШ Чырвонай арміі Ф.Ф. Кузняцоў. Панамарэнка хацеў прыпісаць забойства Кубэ партызанам, і каб камандзіры партызанскіх брыгад і атрадаў далі тэлеграмы ў ЦШПР, што яны забілі ці прыклалі руку да гэтага забойства, але ні з адной партызанскай брыгады ці атрада не паступіла тэлеграм аб забойстве імі Кубэ.

Начальнік Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генеральнага штаба Чырвонай арміі Ф.Ф. Кузняцоў не ўвязваўся ў іх барацьбу, а толькі абараняў жанчын ад нападак.

**Кузняцоў Фёдар Фёдаравіч**

Нарадзіўся ў 1904 годзе. Член ВКП(б) з 1926 года. Генерал-лейтэнант. У 1931 годзе закончыў рабфак, быў на камсамольскай і партыйнай рабоце. У 1937 годзе — першы сакратар абкама ВКП(б), з 1938 года ў Чырвонай арміі. Начальнік аддзела Палітычнага ўпраўлення Чырвонай арміі, начальнік аддзела і намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення палітычнай прапаганды Чырвонай арміі. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў 1942–1943 гадах — член Ваеннага Савета 60-й арміі і Варонежскага фронту. У 1943–1945 гадах — начальнік разведвальнага ўпраўлення Генеральнага штаба Чырвонай арміі. У 1945–1947 гадах — начальнік Галоўнага разведвальнага ўпраўлення. З 1949 года — начальнік Галоўнага палітычнага ўпраўлення Узброеных Сіл СССР. З 1953 года — начальнік Галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны СССР. З 1957 года — начальнік Ваенна-палітычнай акадэміі імя У.І. Леніна, у чэрвені 1959 — сакавіку 1969 гадоў — член Ваеннага савета, начальнік палітычнага ўпраўлення Паўночнай групы войск (ПНР).

Памёр Ф.Ф. Кузняцоў у 1979 годзе.

**Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч**

Нарадзіўся 9 жніўня 1902 года на хутары Шалкоўскі Беларэчанскага раёна Краснадарскага краю, Расія. Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну ў СССР. Генерал-лейтэнант (1943). У 1932 годзе скончыў Маскоўскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. З 1937 года працаваў у апараце ЦК ВКП(б) пры Г.М. Малянкове. У 1938–1947 гадах — першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі, адначасова з верасня 1939 года член ваеннага Савета Беларускай асобай ваеннай акругі. У Вялікую Айчынную вайну — член ваенных саветаў Заходняга, Цэнтральнага і Бранскага франтоў. У 1942–1944 гадах — начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху (ЦШПР) пры Стаўцы Вярхоўнага камандавання.

Ажыццяўляў кантроль ад НКУС СССР за партызанскімі аперацыямі на часова акупаванай тэрыторыі СССР нямецка-фашысцкімі захопнікамі з пазіцый Цэнтральнага штаба партызанскага руху. Адзін з распрацоўшчыкаў і кіраўнік аперацыі «рэйкавая вайна». У першыя пасляваенныя гады шмат зрабіў для аднаўлення і развіцця разбуранай вайной народнай гаспадаркі Беларусі. З 1948 года ў апараце ЦК КПСС і Савеце Міністраў СССР. Панамарэнка быў сакратаром ЦК КПСС, міністрам забеспячэння СССР, міністрам культуры СССР, першым сакратаром ЦК КПСС Казахстана, паслом у Польшчы, Індыі, Галандыі ў 1959 годзе. У 1961 годзе ўрад Галандыі абвясціў яго персонай нон-грата за яго ўдзел у спробе затрымаць савецкую перабежчыцу на вуліцах Амстэрдама. У 1962–1964 гадах савецкі прадстаўнік у МАГАТЭ ў Вене. Выйшаўшы на пенсію, чытаў лекцыі ў Акадэміі грамадскіх навук. Даследчык гісторыі партызанскага руху і падпольнай барацьбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Аўтар кніг «Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне» (1943), «Усенародная барацьба ў тыле нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 1941–1944» (1986) і іншых.

Памёр 18 студзеня 1984 года.

**Калінін Пётр Захаравіч**

Нарадзіўся 25 студзеня 1902 года на былым хутары Альховікі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Скончыў Рэспубліканскую школу прапагандыстаў пры ЦК КП(б) Беларусі ў 1937 годзе, Вышэйшую школу партыйных арганізатараў пры ЦК ВКП(б) у 1941 годзе. З 1938 года ў апараце ЦК КП(б)Б: першы сакратар Вілейскага абкама КП(б) Беларусі. У гады Вялікай Айчыннай вайны — другі сакратар ЦК КП(б)Б, член Ваеннага савета 21-й арміі, намеснік начальніка штаба партызанскага руху пры Ваенным савеце Заходняга фронту. З верасня 1942 года — начальнік Беларускага штаба партызанскага руху (БШПР). З 1944 года знаходзіўся на партыйнай і савецкай рабоце. Аўтар кнігі «Партизанская республика» (3-е издание. Минск, 1973).

Памёр 12 снежня 1966 года.

ПРАЕКТ

# МАЯ ВЫШЫВАНКА

Святлана БАГДАНКЕВІЧ

**У маім жыцці да гэтага часу было ўсяго дзве вышыванкі. Адна — у маленстве, другая — у сталым веку, у адраджэнскія дзевяностыя гады. Пра першую магла ўжо і забыцца, ды толькі памяць пра яе захавалі даўнія фотаздымкі. На іх я, чатырохгадовая, у прыгожым касцюмчыку з вышытых белай кашулькі і гарсэціка ды спаднічкі, аздобленай стужкамі.**



Света Багданкевіч у сваёй першай вышыванцы



Святлана Багданкевіч



У вышыванцы — Алена Анісім, намеснік старшыні ТБМ

Адкуль дзіцячы строй, нібыта нацыянальны (ці то беларускі, ці то ўкраінскі) мог з'явіцца ў той бедны, аскетычны пасляваенны час, хто яго выдумляў ды ствараў і чаму, навошта, па якіх узорах, дзе браліся тыя ж ніткі? Штосьці ўсё ж я ведаю, пра нешта магу здагадвацца…

Мая мама, чыё дзяцінства і юнацтва прайшло ў Віцебску, а ваенныя гады — у Арэнбургу, адразу пасля вайны ўладкавалася на настаўніцкую працу ў Рубяжэвічах (яна скончыла педвучылішча). Там сустрэлася з маім татам, таксама маладым настаўнікам. Яны пабраліся шлюбам, і ў Рубяжэвічах я нарадзілася. Праз нейкі час бацькі знайшлі для сябе працу ў школе ў адной з бліжніх вёсак — Гуменаўшчыне, дзе прайшлі першыя гады майго жыцця. Там мяне і апраналі ў той святочны касцюмчык, які стаўся вынікам сумеснай творчасці мамы і яе сяброўкі — Ганны Слышчанкі.

Прыгожыя дзіцячыя строі яны сумесна шылі і вышывалі для сваіх дачушак. Мабыць, жанчынам, якія на той час апынуліся ва ўмовах беднага і прымітыўнага побыту вёскі, хацелася неяк аздобіць, прыхарашыць сваё жыццё яркімі фарбамі, мастацкімі прыдумкамі. Сам Слышчанка захапляўся фатаграфіяй, дзякуючы яму засталіся здымкі з дзяцінства — майго і ягонай Алачкі, у тым ліку і гэты, у вышыванцы.

Дарэчы, Слышчанка быў украінцам, пазней яго сям'я з'ехала на сталае жыхарства на Украіну. Ды і мы жылі ў Гуменаўшчыне нядоўга, некалькі разоў пераязджалі ў межах Стаўбцоўскага раёна, калі бацька, Мікалай Багданкевіч, прызначаўся дырэктарам вясковых школаў у Трылес, пасля ў Залужжа і, нарэшце, загадчыкам раённага аддзела народнай адукацыі ў Стоўбцах. Гуменаўшчына разам з людзьмі і падзеямі таго часу аддалілася, сцерлася з памяці, здавалася б, назаўсёды.

Але лёс неспадзявана вярнуў мяне ў тыя бласлаўлёныя мясціны, дзе пачыналася маё жыццё, калі нам з мужам пашчасціла набыць сядзібу ў суседняй з Гуменаўшчынай вёсцы — Астравах. Цяпер я бываю там кожнае лета, дыхаючы паветрам свайго маленства. Люблю размаўляць з вясковымі людзьмі, нашымі суседзямі. Ад іх даведалася пра шмат якія падзеі далёкага і блізкага мінулага гэтых мясцінаў, пра лёсы людзей.

Аднойчы давялося, як ні дзіўна, і пра сябе пачуць штосьці цікавае. Наша суседка, спадарыня Марыя Явід, жанчына немаладога ўжо веку, сапраўды інтэлігентная, каталічка, аднойчы распавяла мне, як калісьці ў маладосці яна з сяброўкамі хадзіла ў суседнюю Гуменаўшчыну — за паўтара кіламетры ад Астравоў — на школьны канцэрт. На зваротным шляху дзяўчаты абмяркоўвалі ўсё, што бачылі там і чулі: якія былі выступы, спевы ды танцы, а таксама касцюмы, уборы. «Але ж лепей за ўсіх была апранута настаўнікава дачка, што спявала і танцавала», — вызначыла адна з сяброваk, і ўсе засмяяліся, але пагадзіліся з такім меркаваннем.

Так суседка падаравала мне свой успамін пра тое, як я выступала на школьным канцэрце ў прыгожым вышываным строі (мо для гэтага яго і пашылі?), які засяродзіў на сабе ўвагу вясковых дзяўчат.

Чаму ў такім малым узросце мяне выпускалі на сцэну спяваць і танчыць? Відаць, гэта ўсіх забаўляла, тым больш, што я выступала ахвотна, рухалася свабодна, нязмушана і зусім не баялася. Але сама я ўжо не памятаю тагачасных сваіх выступаў, таму запыталася ў суседкі: «А што я тады спявала, можа быць, вы памятаеце?» І тут спадарыня Марыя зусім нечакана (бо аж праз шэсцьдзесят гадоў) праспявала мне тую забытую мною песеньку, і паказала ўсе тыя рухі, з якімі яна выконвалася.

*«Пайшоў каток у лясок*
*Шукаць Свецін паясок.*
*Паяска ён не знайшоў,*
*Павярнуўся і пайшоў.*
*А Светачка чакае,*
*Што ёй каток шукае».*

З той першай сваёй вышыванкі я вельмі хутка вырасла, а другую надзела ўжо дарослай жанчынай, амаль праз сорак гадоў. Было гэта на мяжы васьмідзесятых і дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, у час імклівых пераменаў, незабыўных падзеяў, пераацэнкі каштоўнасцяў і вяртання цікавасці да ўсяго роднага, нацыянальнага, свайго спрадвечнага.

Адзін з маіх добрых знаёмых Мікола Сасноўскі (дарэчы, сябра легендарнай «Майстроўні», а таксама фотааматар, прысутны на ўсіх тагачасных сустрэчах ды імпрэзах, каб усё фіксаваць і тым часам ствараць своеасаблівы летапіс), неяк прапанаваў мне ўзяць удзел у святкаванні Купалля, якое ладзіла наша адраджэнская моладзь у Вязынцы. Што і казаць, трапіць туды мне вельмі хацелася, тым больш, што мелася сабрацца асаблівая публіка, «чужыя» не дапускаліся. Не так усё проста — трэба было адпавядаць.

Мікола мусіў атрымаць дазвол арганізатараў, каб мяне запрасіць. На той падставе, відаць, што і я адпавядала асноўным патрабаванням: размаўляла пабеларуску, ведала шмат якія купальскія песні. Але для ўдзелу ў святце быў патрэбен беларускі нацыянальны строй, як мінімум, кашуля-вышыванка. Я адправілася шукаць яе па крамах, узяўшы з сабою Міколу як эксперта, бо ён цудоўна разбіраўся ў асаблівасцях нацыянальнага адзення.

Трэба сказаць, вялікага выбару мінскія крамы не прапаноўваюць і да сёння. Усё ж я знайшла штосьці для сябе прымальнае ў мастацкім салоне, што ў Траецкім прадмесці. Тут мяне чакала адзіная майго памеру блузка з тонкага ільну, аздобленая ў беларускім нацыянальным стылі далікатнай вышыўкай і мярэжкамі. Пакрой быў крыху фантазійны, з пышнымі ўверсе і завужанымі ўнізе рукавамі. «Не надта каб аўтэнтычная, — ацаніў яе Мікола. — Але прыгожая і вам падыходзіць!» Так з'явілася другая ў маім жыцці вышыванка. Я падабрала адпаведную спаднічку, саламяныя ды бурштынавыя аздобы, і атрымаўся святочны строй, у якім можна было з'явіцца не толькі на Купаллі, але і ў іншых месцах ды сітуацыях.

Вядома, гэта быў зусім не той поўны аўтэнтычны беларускі народны касцюм, які некаторыя дзяўчаты і хлопцы атрымалі ў спадчыну ад сваіх дзядуляў і бабуляў, каб фарсіць у ім на розных імпрэзах. У мяне ж атрымаўся хутчэй нейкі эклектычны вобраз, стылізацыя сучаснага пад народнае. Але, варта зазначыць, у дзевяностыя гады, калі ў людзей абудзілася цікавасць да ўсяго нацыянальнага, такая стылізацыя была досыць папулярная, можна сказаць, увайшла ў моду. Кожны мог ствараць штосьці сваё, фантазіраваць адпаведна з уласным густам і магчымасцямі.

Вышыты беларускім арнаментам каўнерык сучаснай блузкі, плецены пояс або гальштук, выраблены з бісеру аздобы ў беларускім стылі, саламяныя абручыкі, каралі, завушніцы — усё гэта стварае патрэбны эфект, дапаўняючы сучасны вобраз нацыянальным каларытам. Пры гэтым нацыянальная дэталь на сучасным касцюме выконвае не толькі эстэтычную, але і сігнальную, інфарматыўную функцыю, як значок з вывявай сцяга, герба ці якой эмблемы. І чытаецца яна як пэўны тэкст, сведчыць пра далучанасць, прыналежнасць, заангажаванасць.

Найбольш пашыраная завядзёнка — насіць вышыванку пад сучасны жакет або гарнітур. Што і казаць, зручны, універсальны, агульнадаступны прыём. У такім убранні ў тыя лепшыя часы можна было ўбачыць на розных урачыстасцях і мерапрыемствах шмат каго з нашых літаратараў, дзеячаў мастацтва, палітыкаў, нават чыноўнікаў. Так, да прыкладу, былыя міністры Краўчанка і Ягораў мелі ў сваім гардэробе вышытыя кашулі, у чым народ мог упэўніцца падчас некаторых імпрэзаў.

Вось жа і мая, набытая так своечасова, вышыванка не залежвалася ў шафе ў такі цікавы, рамантычны, насычаны падзеямі час, як пачатак дзевяностых гадоў мінулага ўжо стагоддзя. Гэты стылізаваны пад народны касцюм выручаў мяне ў самых розных сітуацыях, калі было «няма чаго надзець» (самая вострая жаночая праблема). Думаеш, што надзець — ёсць жа вышыванка! І будзеш выглядаць і адчуваць сябе адмыслова.

Мая вышыванка і я ў ёй часта апыналіся ў гушчы самых розных падзей — на святкаваннях, урачыстасцях, вечарынах, канцэртах, сустрэчах, з'ездах, канферэнцыях, масавых акцыях… У ёй надаралася нават чытаць свае вершы на мітынгах і розных імпрэзах. У гэтым нацыянальным строі, разам з іншымі сябрамі Народнага Фронту, я сустракала ля ўваходу ў оперны тэатр гасцей Першага з'езда беларусаў свету. Вышыванка надавала мне ўпэўненасці, калі мне выпаў гонар выступаць вядоўцай разам з спадаром Хадыкам на юбілейнай вечарыне Рыгора Барадуліна ў сядзібе БНФ. Яна была на мне і падчас святкавання Калядаў на кватэры ў Васіля Быкава, памяць пра якое захоўваюць дарагія мне здымкі.

Сярод усіх гэтых яскравых падзеяў асобнае месца займае самая вялікая падзея, што адбылася 25 жніўня 1991 года. Мне пашчасціла быць у гэтыя дні, калі ішло пасяджэнне Вярхоўнага Савета, на Плошчы сярод людзей, якія сваёй прысутнасцю паўплывалі на прынятке незалежнасці Беларусі.

Памятаю, як на другі дзень работы Вярхоўнага Савета я забегла на гадзіну дадому, каб штосьці перакусіць, адпачыць і пераапрануцца для вечаровага стаяння на плошчы, якое магло зацягнуцца дапазна. Усведамляючы гэта, я ўсё ж, насуперак усялякай логіцы, замест нейкіх цяплейшых рэчаў надзела сваю вышыванку. І сёння не ведаю, чаму так зрабіла, магчыма, тут спрацавала жаночая інтуіцыя. І яна не падманула! Бо ўвечары мой нацыянальны строй як найлепей адпавядаў той святочнай атмасферы, якая запанавала на плошчы, калі адбылося лёсавызначальнае галасаванне, і да нас прыйшлі нашы дэпутаты, каб раздзяліць з людзьмі радасць перамогі. І як мая вышыванка аказалася дарэчы, калі я разам з іншымі жанчынамі дарыла кветкі нашым дэпутатам!

Гэтыя памятныя падзеі — амаль дваццацігадовай даўнасці. Сёння вышыванку на кімсьці ўбачыш нячаста — не тая атмасфера, не той стыль, не той настрой. Здаецца, што запанаваў нейкі змрок, таму і бел-чырвона-белы сцяг забараняецца, нібы якая крамола. Можа, каб не развеяў гэты змрок сваім нябесным святлом? А вышыванкі, калі і можна дзе ўбачыць, то хіба што на сцэне ці на выставе, ці на цудоўнай танцавальнай вечарыне ў «Жар-птушцы». У большасці сваёй яны ляжаць, прыхаваныя ў шафах. Але яны ёсць, як і бел-чырвона-белыя сцягі, папросту яны чакаюць свайго. І так хочацца верыць, што прыйдзе час, і мы яго дачакаемся, калі ўся гэтая цемра згіне, развеецца змрок, і ўсю беларускую краіну зальё мора яскравага, зыркага святла ад нашых бел-чырвона-белых сцягоў і святочных вышыванак!

**Падрыхтавана Таццянай Трубач, адным з куратараў праекта «Чалавек у вышыванцы»**

**Чакаем вашых допісаў пра гісторыю вашых вышыванак на адрас сядзібы ТБМ**

▸ НАГОДА

# РЫГОР ШЫРМА

Сяргей ЧЫГРЫН

**20 студзеня спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння беларускага харавога дырыжора, фальклярыста, грамадскага і музычнага дзеяча, публіцыста, народнага артыста Беларусі і СССР, Героя Сацыялістычнай Працы, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Рыгора Шырмы (1892–1978).**

Тыя, каму ў жыцці пашанцавала сустракацца ці сябраваць з Рыгорам Раманавічам, заўсёды самымі светлымі словамі згадваюць гэтага таленавітага чалавека, які быў родам з вёскі Шакуны Пружанскага павета. А народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч назваў Рыгора Шырму «патрыярхам беларускай музыкі, чараўніком-валадаром роднай песні, яе самаадданым прапагандыстам і папулярызатарам, руплівым фальклярыстам-збіральнікам, патрабавальным і клапатлівым настаўнікам-педагогам, нястомным грамадскім дзеячам».

У 1925 годзе Рыгор Шырма з Пружан пераехаў у Вільню. Там працаваў у сакратарыяце Грамады, выхавацелем у інтэрнаце для хлопчыкаў Віленскай беларускай гімназіі. З 1926 года выкладаў у гімназіі спевы і арганізаваў хор. А праз год ён узначаліў Таварыства беларускай школы і заставаўся сакратаром Галоўнай управы аж да забароны арганізацыі ў 1936 годзе. За гэты час Рыгор Шырма аб'ехаў усю Заходнюю Беларусь, наладжваў усюды гурткі ТБШ і хоры, школы з беларускай моваю навучання, дапамагаў ставіць спектаклі.

Усюды, дзе б ні бываў Шырма, ён не забываў запісваць народныя песні, для чаго нястомна адшукваў таленавітых спевакоў. Шырма не спыняўся толькі на запісе народных песень, а шукаў кампазітараў, якія апрацоўвалі б іх. Не маючы магчымасці звярнуцца да музыкантаў Савецкай Беларусі, ён знайшоў выдатных майстроў — расійскага кампазітара Аляксандра Грачанінава ў Парыжы і ўкраінскіх Аляксандра Кошыца і Мікалая Гайваронскага ў Нью-Ёрку. Атрыманыя ад іх і Канстанціна Галкоўскага апрацоўкі адразу правяраліся ў хорах гімназіі ў другой палове 1920-х і Беларускага саюза студэнтаў у 1930-я гады. Апошні, заснаваны Рыгорам Шырмам у 1931 годзе, пасля таго, як з ім стаў выступаць выдатны спявак родных песень Міхась Забэйда-Суміцкі, стаў выдатнай мастацкай з'явай у Заходняй Беларусі.

Акрамя таго, Рыгор Шырма ўдзельнічаў у дзясятках з'ездаў ТБШ, прачытаў сотні лекцый па беларускай культуры, выступіў са шматлікімі канцэртамі, быў выдаўцом зборнікаў беларускіх песень, папулярных у Заходняй Беларусі паэтаў Міхася Васілька, Сяргея Крыўца, прапагандаваў творчасць сваіх вучняў-гімназістаў Алеся Салагуба і Валянціна Таўлая. Рыгор Раманавіч першым разглядзеў магутны талент удзельніка нацыянальна-вызваленчага руху Максіма Танка, адклаў выданне сваіх фальклорных запісаў і на ахвяраваныя грошы выдаў першы зборнік паэта «На этапах».

З літаратуразнаўчымі артыкуламі і рэцэнзіямі Рыгор Шырма пачаў выступаць у друку з 1933 года. У гэтым годзе разам з Феліксам Стацкевічам пачаў выдаваць часопіс «Летапіс ТБШ» (з 1936 года ён называўся «Беларускі летапіс» — С.Ч.).

У 1930-я гады пра дзейнасць Рыгора Шырмы пісалі амаль усе беларускія выданні, якія выходзілі ў Вільні. Шмат сваіх старонак пра музычную дзейнасць і творчасць геніяльнага беларускага дырыжора і грамадскага дзеяча адводзіў часопіс «Калоссе» — адно з найпапулярнейшых выданняў у былой Заходняй Беларусі. Квартальнік «Калоссе» выдаваўся ў Вільні з пачатку 1935 да 1939 года на беларускай мове.

У 1935 годзе часопіс «Калоссе» (№3) паведаміў, што «сёлета вясной кампазітар Грачанінаў згарманізаваў 10 народных песень, а апошнім часам распачаў гарманізацыю новых, з ліку 70, якія запісаў і пераслаў яму ведамы беларускі культурны дзеяч і рэгент беларускага хору гр. Р. Шырма». Пра творчую сувязь расійскага кампазітара Аляксандра Грачанінава (1864–1956) і Рыгора Шырмы «Калоссе» пісала некалькі разоў. На той час Аляксандр Грачанінаў жыў у Парыжы, але вельмі актыўна ліставаўся з Рыгорам Шырмам. Гэта дзякуючы Рыгору Раманавічу Аляксандр Грачанінаў апрацоўваў беларускія народныя песні, якіх захавалася 17 для голасу і фартэпіяна, 11 — для мяшанага хору. На тэмы беларускіх народных песень расійскі кампазітар напісаў «Беларускую рапсодыю» для сімфанічнага аркестра і п'есу для скрыпкі на тэму калядкі з Пружанскага павета «Дар Белай Русі». Ён з'яўляецца аўтарам музыкі да п'есы Васіля Шашалевіча «Апраметная», якая была пастаўлена БДТ-2 у 1926 годзе. Рыгор Шырма ў сваіх артыкулах часта прыгадваў свайго сябра: «Песні, як і ўсе грачанінаўскія гарманізацыі, цудоўныя, апрацаваныя з вялікім артыстызмам. Асаблівай прыгажосцю ў выкананні хорам адзначаецца апошняя песня «Ой, гыля, гыля». Нашы скарбы растуць! Да павелічэння іх спрычыняецца слаўны кампазітар А.Ц.Грачанінаў» («Летапіс ТБШ», №4–8, 1936. С.41).

У 1936 годзе «Калоссе» (№2) распачало друкаваць артыкул Мар'яна Пецюкевіча «Беларуская мэлёграфія». У ёй аўтар згадвае і музычную дзейнасць Рыгора Шырмы. Ён нагадвае сваім чытачам, што ў 1929 годзе ў Вільні Рыгор Шырма выдаў асобнай кніжачкай «Беларускія народныя песні», куды ўвайшлі 34 песні. «Апрача гэтага Р. Шырма ў рукапісах мае каля 1000 народных песень, запісаных пераважна ў паўднёвай частцы Краю», — паведамляў аўтар публікацыі. Ёсць у артыкуле і звестка пра тое, што ў Лідскім павеце запісаў і апрацаваў некалькі народных песень святар Т. Уладзімірскі, а рукапісы гэтых песень знаходзіцца ў Рыгора Шырмы.

Гэты нумар «Калосся» на сваіх старонках друкуе і вялікі артыкул Рыгора Шырмы «Беларускія валачобныя песні і іх распаўсюджанне на гэтым баку савецка-польскай граніцы». Аўтар падкрэслівае, што «валачобная песня — самая дакладная этнаграфічная граніца паміж абшарамі з беларускім і польскім насельніцтвам». Побач з артыкулам, часопіс апублікаваў валачобную песню «Ходзіць пава па вуліцы», запісаную Рыгорам Шырмам у вёсцы Драглі Сакольскага павета з нотамі, музычная апрацоўка песні была Канстанціна Галкоўскага.

Дарэчы, у Вільні Рыгор Шырма шчыра сябраваў з кампазітарам Канстанцінам Галкоўскім (1875–1963). Сын беларуса з Магілёўшчына пасля Пецярбургскай кансерваторыі жыў і працаваў у Вільні. У першай палове XX стагоддзя Канстанцін Галкоўскі разам з Людамірам Рагоўскім кіравалі амаль усім музычным жыццём Вільні. Рыгор Шырма напісаў шмат добрых слоў пра свайго сябра.

Часопіс «Калоссе» ў №1 за 1937 год паведамляў на сваіх старонках, што кампазітар Канстанцін Галкоўскі апрацаваў чатыры беларускія песні — «Там пад гаем зеляненькім», «Ой, маці, маці», «Пайшла дзяўчынка ў лес за грыбамі» і «Ой, чумача, чумача». Мелодыі і тэксты гэтых песень запісаў Рыгор Шырма ў вёсцы Шакуны Пружанскага павета.

10 снежня 1938 года ў Вільні адбыўся канцэрт з удзелам Міхася Забэйды-Суміцкага і хору Беларускага студэнцкага саюза пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Канцэрт прайшоў вельмі паспяхова. Пра гэта паведаміла «Калоссе» у №4 за 1938 год.

Хор Рыгора Шырмы вельмі часта выступаў у Вільні. Ён даваў канцэрты для моладзі, для вернікаў розных рэлігій і проста для гараджан. Уладзімір Чэмер у першым нумары «Калосся» за 1939 год напісаў артыкул «Два канцэрты Рыгора Шырмы». У ім аўтар паведамляў, што толькі ў сакавіку 1939 года на канцэртнай эстрадзе Вільні хор Беларускага студэнцкага саюза выступаў двойчы: першы раз — у зале Снядэцкіх, другі раз — у кансерваторыі. Першы канцэрт хору быў прысвечаны 15-годдзю працы Рыгора Шырмы на ніве беларускага музычна-вакальнага мастацтва. Рыгору Шырму, як пісаў часопіс, былі паднесены не толькі кветкі, але і вышываны ручнікі ад беларускай моладзі. Другі канцэрт меў іншы характар, і праграма яго складалася з праваслаўнай духоўнай музыкі, пераважна кампазітараў кіеўскай школы — Вэдэля, Кошыца, Стацэнкі.

12 лютага 1939 года ў Вільні адбыўся агульны сход Беларускага навуковага таварыства. Сход выбіраў новы ўрад на наступныя тры гады. Кандыдатамі ў камісію былі абраны Рыгор Шырма і Аляксандр Уласаў. Пра гэта таксама паведамляў часопіс. А ў 1939 годзе Рыгор Шырма стаў супрацоўнікам «Калосся». Пастаяннымі супрацоўнікамі тады часопіса былі Сяргей Сахараў, Станіслаў Грынкевіч, Міхась Машара, Адольф Клімовіч, Анатоль Бярозка, Максім Танк, Адам Станкевіч, Мікола Шкялёнак, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс, Хведар Ільяшэвіч, Мар'ян Пецюкевіч і іншыя беларускія дзеячы Заходняй Беларусі.



Вечар беларускай паэзіі і песні ў Віленскім універсітэце. Злева направа П.Сергіевіч, Я.Хвораст, Р.Шырма, Р.Бярозка, М.Танк, В.Труцька. 1930-я гады



Хор Прэчысценскага сабора ў Вільні, сядзіць крайні справа Рыгор Шырма. 1926 г.

▸ РЭЦЭНЗІЯ

# НА ЎСЕ ВЯКІ

Янка ЗАПРУДНІК

**Пабачыў свет зборнік вершаў (на беларускай мове і ў перакладах на англійскую і французскую мовы) Сяргея Панізніка «На ўсе вякі...»**

Сяргей Панізнік не толькі выдатны паэт, але і добры гаспадар сваіх творчых набыткаў. У сённяшні фінансава цяжкі час ён дбае аб тым, каб ягоныя вершы даходзілі да чытача, і мы ўдзячныя яму за гэта.

На каляровай вокладцы новага зборніка бачым аўтара з радаснай усмешкай і распасцёртымі рукамі нахіленым над вялікім глобусам. А на абводцы глобуса ўздоўж экватара стаяць сем папярэдніх паэтавых кніжак. І восьмы ён падарыў нам восьмую.

Глобус на вокладцы не выпадковы. Як зазначае Міхась Скобла, аўтар прадмовы, «Сяргей Панізнік — аднолькава жаданы госць у Празе, Рызе, Вільні, Львове... Пералік замежных сталіц і гарадоў можна было б працягваць: беларускі паэт нястомна ўмацоўвае культурныя повязі з краінамі блізкага і далёкага замежжа».

Міжнародныя сувязі Панізніка ў новай кнізе навідавоку: у зборніку 28 ягоных вершаў прадстаўленыя англамоўнаму чытачу ў перакладзе Dogmar T. Walcott і 41 верш на французскай мове ў перакладзе Ніны Дэбольскай. А на 80 старонках аўтар прапануе свае новыя творы.

Сяргей Панізнік — паэт-жыццялюб, глыбока адухоўлены. Тэматыка ягоных вершаў дэманструе замілаванасць моваю, абазнанасць у гісторыі роднага краю, здольнасць да тонкіх назіранняў над з'явамі навакольнай прыроды і космасу.

Заглыблены ў моўную стыхію, са шчодрым талентам, аўтар дорыць чытачу паэзію багатую алітэрацыямі і наватворамі, музыкай слоў, гукаў і сугуччаў. Паэт верыць у цудадзейную сілу слова ды ў лепшую будучыню.

Падзякуем жа паэту за чарговую скарб-кніжку ды пажадаем, каб яна сапраўды заставалася «На ўсе вякі...»

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 60

Падпісана да друку 20.01.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.